


# Літаратура і мастацтва

**газета творчай інтэлігенцыі Беларусі**

3 ЛІПЕНЯ 1998 Г. № 27/3955 КОШТ 4 000 РУБ.





# "Дудуткі": зноў — фэст, зноў — свята

Музей матэрыяльнай культуры "Дудуткі", які ўжо не першы год працуе на пухавіцкай зямлі, зноў сабраў гасцей, удзельнікаў традыцыйнага — чацвёртага па ліку — фэсту старасвецкай культуры. Зноў на бераг Пцічы прыехалі артысты і прадпрымальнікі, пісьменнікі і музыканты, прадстаўнікі самых розных інстытутаў улады... Словам, гасцей знакамітых, людзей вядомых хапала. І, вядома ж, хапала вяселля, жартаў, відовішчаў. Мастацкія выставы, пленэры мастакоў і народных майстроў, конкурсы арганічна дапаўнялі катанне на паветраным шары, прагулянкі конна, у карэтах і на старадаўніх аўто. У нядаўна адкрытай хлебапякарні адбыўся імправізаваны спектакль "Стварэнне хлеба". Упершыню ў "Дудутках" працавала карчма.

Па традыцыі аматараў класічнай музыкі запрасіў музычны салон "У маёнтку Ельскіх", "Беларуская капэла" прадставіла канцэрт камернай музыкі, адбылася прэзентацыя клавіра і аўдыёкасеты оперы "Агатка, або Прыезд пана". А ля ветрака святочнаму феерверку папярэднічаў спектакль "Камедыя" ("Пра злашчаснага селяніна Дзёмку, пра жонку яго Маланку, арандатара Давіда і пра Чорта, які згубіў сэнс існавання"), пастаўлены акцёрамі Малога тэатра Мінска. Рэжысёры — Андрэй Андросік і Уладзімір Рудаў.

Завяршылі свята купальскія гулянні з "Крупіцкімі музыкамі".

Аглядаючыся на сёлетні фэст, які фірмы "Паліфакт" і "Дудуткі-ТУР" праводзілі пры падтрымцы Пухавіцкага райвыканкама, падумалася вось пра што. Свята, заснаванае

*(Працяг на стар. 2)*




## КРЫЖ І КРЫЛЫ

***Алесь ГІБОК-ГІБКОЎСКІ: "Адным з важнейшых элементаў нашай незалежнасці з'яўляецца наша беларускасць, вакол якой, дарэчы, і разгортваецца асноўная наша сённяшняя барацьба. Тыя, хто хоча пазбавіць беларусаў беларускасці, цудоўна разумеюць яе значэнне і ў змаганні з ёй не шкадуюць "патронаў". Пры першай неабходнасці ў ход ідзе і "цяжкая артылерыя". У прыхільнікаў беларускасці магчымасцяў менш, але яны добра разумеюць, што калі прайграюць, то беларусаў, як нацыі, больш ніколі не будзе, як ніколі не будзе і краіны Беларусь..."***

**5**

## І ВЕЛЬМІ ШМАТ ЖУРБЫ...

***Сёння спаўняецца 80 гадоў з дня нараджэння вядомага крытыка і выдатнага знаўцы паэзіі Рыгора БЯРОЗКІНА.***

**6—7**

## ПЕРАВОЗНІКІ

***Вершы Міколы МЯТЛІЦКАГА***

**8**

## АПАВЯДАННІ ПРА РЭЧЫ

***Міхася ДАНІЛЕНКІ***

**9, 12**

## ЗНОЎ — ПОЛЕ БАРАЦЬБЫ?

***Юрый ДРАГУН: "Перапісванне" гісторыі новым пакаленнем не з'яўляецца вынікам суб'ектыўнасці. Гісторыя гістарычнай навукі, грунтуючыся на прынцыпе гістарызму, у стане раскрыць вытокі сучасных канцэпцый, пераканаць некаторых артадоксаў, што гісторыю трэба пераглядаць ("перапісваць"), але не з ідэалагічных і палітычных меркаванняў, а дзеля таго, каб ачысціць яе ад фальсіфікацый, каб спазнаць ісціну".***

**13—14**

## "...КАЛІ ЎЖО НАРАДЗІЛАСЯ БЕЛАРУСКАЯ СІЛА..."

***Некалькі Купалавых старонак з кнігі "Янка Купала — публіцыст".***

**16**

ІМПРЭЗЫ

# Адсюль ён ішоў у людзі...

Бяларучы на мяжы стагоддзяў былі ладным мястэчкам з царквой, плошчай і помнікам самадзяржцу. Цяпер гэта невялікая вёсачка на Вячы, якую з усіх бакоў абступілі і цесняць дачныя пасёлкі. Ажно чатыры вучні сёлета заканчваюць сярэднюю школу (праўда, першакласнікаў больш дзесятка). Сама драўляная школа, збудаваная пасля вайны, абвалілася, як тут кажуць, у 90-м. Тады Валянціна Яўгенаўна Петракоўская толькі прыйшла на дырэктарства. Будынак ацалеў цудам, мясцовыя ўлады збіраліся яго прадаць.

Пяць гадоў настаўнікі з вучнямі займаліся ў непрыстасаваных памяшканнях. Але з дапамогай райвыканкама школу — пераемніцу знакамітага Бяларуцкага народнага вучылішча — усё ж паднялі на ногі. На сёння гэта проста цацачка, аздобленая драўлянымі панелямі і аркамі і ўпрыгожаная работамі народнай мастачкі. Не сорамна і гасцей запрасіць, тым больш што нагода незвычайная: 100 гадоў таму Янка Купала атрымаў тут пасведчанне аб заканчэнні народнага вучылішча. Да гэтай падзеі прымеркавана адкрыццё школьнага музея "Купала і Бяларучы". Загадчыцай яго стала настаўніца беларускай мовы Т. Каранда, а яго афармленне легла на плечы былой супрацоўніцы Купалаўскага музея С. Майхровіч.

Музей заказаў аўтобус, бо бяларуцкія настаўнікі запрасілі пісьменнікаў — кожнага вызванілі асабіста. Прыбыла і дэлегацыя з Лагойска на чале з намеснікам старшыні райвыканкама А. Навіцкім.

Пасля літаратурнай кампазіцыі, пасля своеасаблівага гімна Ю. Семянякі "Люблю цябе, Белая Русь", хораша праспяванага Раісай Дзяржынскай, слова ўзялі старэйшыя з гасцей — Уладзімір Юрэвіч і Ядвіга Раманоўская, пляменніца паэта. Не ўсе ведаюць, што Мікалай Фёдаравіч Турчановіч, дырэктар вучылішча, з рук якога Янка Луцэвіч атрымаў пасведчанне, даводзіцца Уладзіміру Міхайлавічу дзедам па маці. Менавіта ў Турчановіча кватараваў Янка, сябраваў з яго дачкой і нават вучыўся ў яе вышываць, каб перадаць умельства сёстрам. Меншая, Леакадзія, кожны панядзелак на кані адвозіла брата з Селішчаў у Бяларучы, а ў суботу забірала. Двухгадовую праграму ён засвоіў за год...

У музеі, які ўрачыста адкрыўся, вісіць карта шматлікіх пераездаў Дамініка Луцэвіча па Лагойшчыне. Мусіць, дробнага арандатара прывабіла не столькі мясцовая камяністая глеба, колькі хараство краявідаў. І хоць Вячы пашанцавала меней, чым апетай Гайне, але гэтая рэчка суправаджала сям'ю амаль ва ўсіх яе вандроўках. "Тут ён узрос, узгадваўся, тут уабраў усё тое, чым адарыў нас", — сказаў Мікола Гіль, ураджэнец Лагойшчыны. Не зусім святочным было яго слова, а падабраныя з Купалавай паэзіі цытаты сведчылі самі за сябе:

***Ой вы, гусі-гудзіцелькі,***
***Не забудзеце зямелькі,***
***Дзе дзяцей пладзілі,***
***Дзе вы месячык страчалі,***
***Дзе вы зоркі падлічалі,***
***Плавалі, хадзілі.***
***Знаю, зложыце тут косці,***
***Толькі злётаеце ў госці***
***Асвяжыці грудзі:***
***Вы не ўмееце йшчэ, гусі,***
***Выракацца Беларусі,***
***Як умеюць людзі.***

*(1918)*

Па вершу прачыталі Мікола Аўрамчык і аўтар гэтых нататкаў — таксама зямляча, бо парадзілася з Лагойшчынай. Хораша і доўга гаварыў пра спадчыну песняра Анатоль Кудравец (ён мае лецішча непадалёку). Не забыліся запрасіць на свята і настаўніцу, якая ў 60-ыя пачынала збор экспанатаў для музея — Я. Жылаковіч (Баранчык).

Відавочна не хапала тут самага слыннага з сучасных лагойцаў — Ніла Гілевіча, які цяжка хварэе, ды згаданай ужо народнай мастачкі Зінаіды Зміцровіч (яна таксама пасялілася ў тых мясцінах).

Ад Купалаўскага музея прывезла падарункі галоўны захавальнік фондаў М. Чабатарэвіч. "Купалаўцы!" — так звярнулася яна да ўсіх нас, і быў у такім звароце нейкі асаблівы сэнс. Бо купалаўцы — гэта ўсе, хто ступіў на адказны шлях творчасці, хто беражэ мастацкую спадчыну класіка, хто стварыў гэты зялёны аазіс — куточак беларушчыны, — дзе так лёгка дыхаецца, хто шануе зямлякоў і ўласныя карані. У педагогаў Бяларуцкай школы столькі прывету, столькі зычлівасці — і адначасова сціпласці, што хочацца верыць: іхнія зярняты ўпадуць не на каменне...

Крыху натомленых гасцей (а ў іх ліку былі і настаўнікі іншых школ, і прадстаўніца раённага аддзела народнай адукацыі) пачаставалі пірагамі. Папрацавалі давялося не толькі юным экскурсаводам, але і выхаванкам гуртка "Гаспадынька" пад кіраўніцтвам Р. Хвясечкі. Ураджэнка Чувашыі, яна пранікла духам дзівосных купалаўскіх мясцін. Чым не прыклад для некаторых тутэйшых "патрыётаў"?..

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**





*На здымках: У. Юрэвіч прымае хлеб-соль. Куточак школьнага музея.*

*Фота В. ЗАХАРАВА*

ПРЭМ'ЕРЫ

# Пацалунак... "пад заслону"

На завяршэнне сёлетняга сезона Дзяржаўны тэатр музычнай камедыі Беларусі паказаў прэм'еру мюзікла Коўла Портэра "Цалуй мяне, Кэт!". Папулярная з пяцідзесятых гадоў таму на Брадвеі гісторыя з жыцця людзей тэатра аказалася сугучнай сённяшняму настрою і творчым намерам галоўнага рэжысёра мінскай трупы Барыса Лагоды. Ён і ажыццявіў пастаноўку — зразумела, пры чынным удзеле музычнага кіраўніка спектакля Аляксандра Сасноўскага, мастака-пастаноўшчыка Яўгена Ждана, запрошанага з Санкт-Пецярбурга вядомага харэографа Галі Абайдулава ды артыстаў-выканаўцаў. "Цалуй мяне, Кэт!" — спектакль шматнаселены, і ў ролях занята нямала маладых акцёраў. А выканаўца цэнтральнай ролі адзін: сталы артыст, майстар эпізоду, упершыню ўведзены ў амплуа галоўнага героя, — Анатоль Касцецкі. Ён і мусіць весці рэй у гэтым "Тэатры ў тэатры", у музычна-сцэнічным аповедзе пра пакутлівае нараджэнне свята мастацтва, пра парадоксы закуліснага жыцця і нялёгкую ношку акцёрскай прафесіі.



*Фота Віт. АМІНАВА*

АБСЯГІ

## ГРОДНА...

# "Душу раскрыўшы насцеж"

Выдатны вучоны, акадэмік, дырэктар Інстытута біяхіміі Акадэміі навук Юрый Міхайлавіч Астроўскі (1925—1991) пакінуў у спадчыну не толькі навуковыя манаграфіі, але і вершы, якія пісаў у войску, пасля — па дарозе ў навуковыя камандзіроўкі. Чамусьці найболей пісалася на вакзалах Смаленска і Вільні. У паэтычных радках вучонага — свая краса і адметнасць.

Не займаючыся прафесійна літаратурай, Юрый Міхайлавіч думаў на роднай мове — так думалі ўсе ў слаўтым родзе Астроўскіх. Сваімі публіцыстычнымі артыкуламі і грамадскай дзейнасцю вучоны абуджаў сумленне... Спадчына Ю. М. Астроўскага сабрана руплівцамі Гародні ў невялікі зборнічак і выдадзена невялікім накладам у Гродзенскай друкарні коштам кааператыву "Біятэст" — сціплы помнік па вялікім вучоным.

**Алена ГАЙКО**

## ВІЦЕБСК...

# Бахцінскія чытанні

У горадзе прайшлі трэція Бахцінскія чытанні. Удзел у іх прынялі вучоныя з Канады, Англіі, Японіі, Польшчы, Расіі, Беларусі.

Вядомы філосаф, літаратуразнаўца, тэарэтык мастацтва Міхаіл Бахцін, які працаваў у Віцебскай кансерваторыі ў 20-ыя гады нашага стагоддзя, прыцягвае ўвагу сучасных гуманітарных даследчыкаў. Некалькі год таму дацэнт Віцебскага дзяржуніверсітэта Мікалай Панькоў нават стварыў часопіс "Дыялог. Карнавал. Хранатоп", які атрымаў міжнароднае прызнанне.

Некалькі дакладаў на навуковай канферэнцыі былі прысвечаны сябру і паплечніку Бахціна Паўлу Мядзведзеву, які 60 год таму быў расстраляны ў сутарэннях НКУС. На чытанні прыехаў сын Мядзведзева — Юрый, публіцыст, літаратуразнаўца з Санкт-Пецярбурга.

**Таццяна ПАСТАРНАК**

# "Памылка Марлен Дытрых"

Творчасць вядомага маскоўскага тэатразнаўцы і журналіста Дзмітрыя Мінчонка прыцягнула ўвагу славутага беларускага рэжысёра Мікалая Пінігіна. Першы драматычны твор Мінчонка "Памылка Марлен Дытрых" Пінігін будзе ставіць на сцэне Беларускага акадэмічнага тэатра імя Я. Коласа. Эскізы сцэнаграфіі і касцюмаў прыняты ўжо дырэкцыяй тэатра.

# "Інфармацыя—98"

Так назваецца выстава, прысвечаная 120-годдзю з дня нараджэння слыннага мастака Казіміра Малевіча. У Віцебскім мастацкім музеі, Арт-цэнтры Марка Шагала, выставачнай зале "Саляныя сховішчы" свае творчыя работы ў рамках акцыі "Інтэлект у культуры, форме, часе" выставілі ўдзельнікі міжнароднага праекта з Швейцарыі, Польшчы, Расіі, Беларусі.

**Святлана ГУК**

## ГОМЕЛЬ...

# Спектакль адной актрысы

Народная артыстка Беларусі Ніна Карнеева, творчасць якой на працягу многіх год звязана з Гомельскім абласным драмтэатрам, часта выступае на прадпрыемствах, у арганізацыях, школах і бібліятэках. Гэтымі днямі адбылася яе сустрэча "Выратуе свет... гумар?" з гледачамі ў родным тэатры. Аўтарамі рэпертуару актрысы сталі А. Чэхаў, А. Аверчанка, Е. Аўэрбах, І. Крылоў. В. Ардаў і Ю. Смуул.

# Філасофія Святаслава Рэрыха

У выставачнай зале Гомельскага дзяржуніверсітэта імя Ф. Скарыны пастаянна наладжваюцца экспазіцыі знакамітых і маладых мастакоў. Цяпер тут дзейнічае выстава (дарэчы, упершыню ў Гомелі) факсімільных карцін вядомага рускага мастака Святаслава Рэрыха. Многія ягоныя творы знаходзяцца ў буйнейшых музеях свету. Гомельская экспазіцыя, напрыклад, такія творы, як "Распяцце чалавецтва", "Вестка", "Чаша буды", у поўнай меры раскрывае філасофскі падыход Рэрыха да сусвету, да жыцця чалавека.

# Выстава ў Светлагорску

Светлагорская карцінная галерэя стала "мекай" для вядомых беларускіх мастакоў. Тут выстаўляюцца акадэмікі жывапісу, самыя знакамітыя майстры рэспублікі. Днямі сваю выставу адкрыў член беларускага Саюза мастакоў Валерый Сідоркін, які жыве і працуе ў Мазыры. Галоўны лейтматыў яго работ — Палессе, краса гэтага краю, услаўленне беларускай зямлі ў эпічных і камерных пейзажах.

# Атэстацыя на званне мастака

Адбыўся выпуск навучэнцаў жывапіснага аддзялення Гомельскага мастацкага вучылішча. Дыпломы абаранілі 27 таленавітых юнакоў і дзяўчат. Большасць іх работ вызначаецца высокім майстэрствам выканання. Жанры самыя разнастайныя. Гэта тэматычная карціна, партрэт, пейзаж. Цікава тое, што дыпломнікі прадставілі і гістарычны партрэт — князя Фёдара Паскевіча і Ірыны Паскевіч, якая займалася дабрачыннай дзейнасцю.

Выпускнікі атрымалі накіраванні на працу па заяўках абласных упраўленняў культуры і адукацыі.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

## БРЭСТ...

# Афорты Генадзя Вяля

Набывае папулярнасць у жыхароў абласнога цэнтра мастацкі салон на Набярэжнай імя Ф. Скарыны, які належыць маладому прадпрыемству "Беларт". Тут, апрача камерцыйнай крамы, ёсць выставачная зала. Нядаўна яна парадавала наведвальнікаў экспазіцыяй работ майстра графічных мініяцюр Генадзя Вяля, лаўрэата шэрагу міжнародных конкурсаў. На выставе 40 афортаў, сярод якіх шмат кніжнай графікі, ілюстрацый да твораў Гётэ, Талстога, іншых класікаў літаратуры, а таксама экслібрысаў. Прадстаўлена і беларуская тэматыка. Гэта работы "Крыж Еўфрасінні Полацкай", партрэт вялікай асветніцы, "Купалінка", "Мімалётнасць купальскай ночы" і інш.

# Бібліятэка-музей

Ёсць такі адмысловы музей у вёсцы Церабліцы Столінскага раёна. Тут шмат этнаграфічных экспанатаў, кніг, а цэнтральнае месца ў экспазіцыі займаюць работы вядомага разбяра па дрэве Івана Супрунчыка. Вялікую ўвагу майстар удзяляе палескаму фальклору, жыццю і творчасці беларускіх пісьменнікаў, у прыватнасці Якуба Коласа. Зусім нядаўна ў бібліятэцы-музеі з'явіўся новы экспанат — драўляная скульптура Адама Міцкевіча, якую Іван Супрунчык прысвяціў 200-гадоваму юбілею вядомага паэта.

**Сымон АКСЕНІН**

ШЛЯХІ

# Крыж і крылы

Алесь ГІБОК-ГІБКОЎСКІ

*Вам кажу!*
*Не нясіце яе, як крыж,*
*У выжыллі сагнутых плеч*
*Не умеўшы Хрыстовых сілаў,*
*Беларускасць нясіце, як крылы,*
*Беларускасць нясіце, як меч.*
Зміцер ЦЕХАНОВІЧ

Восенню 1998 споўніцца дзесяць гадоў з моманту пачатку новага этапа барацьбы за незалежнасць беларускага народа, якая доўжыцца не адно стагоддзе. Здавалася б, за столькі часу ў лепшых сыноў гэтага народа павінны былі апусціцца рукі, ды і сыноў тых станавілася ўсё меней і меней. Ужо быў час, калі і надзеі не заставалася амаль ніякай. Але напрыканцы 80-х гадоў XX стагоддзя яна з'явілася зноў. А на пачатку 90-х нават рэалізавалася практычна. Як толькі сёння мы не называем нашую дзяржаву: і псеўда-, і квазі-, і марыянетачнай, і г. д. Але яна існуе, можа, пакуль што дэ-юрэ, а не дэ-факта, і ўсё ж воляю лёсу мы сталі грамадзянамі не СССР, а Рэспублікі Беларусь, пра што нават дзесяць гадоў таму не маглі і марыць.

Але вось жа — барацьба не спыняецца. Прычын для гэтага шмат. Адным наша незалежнасць здаецца залішняй, іншым — недастатковай. Як бы там ні было, ды стан перманентнай барацьбы застаецца на сённяшні дзень нашым самым звыклым станам. Па шчырасці, іншага мы сабе і не ўяўляем, і калі ўзяць і пазбавіць нас ад яго аднамомантна, то нам будзе, бадай што, надзвычай цяжка адаптавацца да "мірнага будаўніцтва".

Адным з важнейшых элементаў нашай незалежнасці з'яўляецца наша беларускасць, вакол якой, дарэчы, і разгортваецца асноўная наша сённяшняя барацьба. Тыя, хто хоча пазбавіць беларусаў беларускасці, цудоўна разумеюць яе значэнне і ў змаганні з ёй не шкадуюць "патронаў". Пры першай неабходнасці ў ход ідзе і "цяжкая артылерыя". У прыхільнікаў беларускасці магчымасцяў менш, але яны добра разумеюць, што калі прайграюць, то беларусаў, як нацыі, больш ніколі не будзе, як ніколі не будзе і краіны Беларусь...

I

Але што такое наша беларускасць? Рэальная духоўная субстанцыя, на грунце якой магчыма і неабходна будаваць нашу дзяржаву, нашу будучыню, ці напаўміфічная ідэалагема, прыдуманая тутэйшымі інтэлігентамі? Ну ніяк не хочуць нашы землякі ўспрымаць на веру рэчы, якія нельга ў літаральным сэнсе памацаць рукамі... Беларускасць? А што гэта, прабачце, такое? З чым і як яе ўжываюць? І ўсё ж знаходзяцца дзівакі, якія неслі і нясуць яе, гэтую незразумелую нікім да канца, бясконца гнаную і бітую, відавочна нават моцна скалечаную беларускасць. Але яны сапраўды неслі і нясуць яе як пакутны і страшэнна цяжкі крыж, не маючы, як слушна сцвярджае паэт, для гэтага Хрыстовых сілаў.

Ці можна такім чынам было далёка зайсці, асабліва калі ўвесь час абражалі, давалі выспятка, часам вельмі балюча, або ўвогуле рабілі на шляху сапраўдныя завалы, як гэта адбылося ў маі 1995 года? А можа, таму і "насаджаюць назад", што моўчкі нясём свой крыж, згорбленыя, са сваімі гаротнымі песнямі-жальбамі? Слабых, вартых жалю, як вядома, проста ігнаруюць і абыходзяць бокам, зрэдку кінуўшы дробную асігнацыю...

Уздымаць беларускасць, як крылы? Але для гэтага патрэбна велізарная, сканцэнтраваная ў пучок энергія, якую іншыя народы назапашвалі тысячагоддзямі. Нашы лепшыя "энергетыкі" загінулі на палях бясконцых войнаў, у засценках ўсялякіх ГУЛАГаў, раз'ехаліся, разбегліся па амерыках і еўропах, па польшчах і расіях. А бальшыню тае энергіі, што засталася, і па сённяшні дзень высмоктваюць, як кроў, чужыя "клапы". Іх шмат на целе Беларусі...

Дык, можа, і сапраўды як меч узняць яе, нашу беларускасць? Здавалася, што многія і ўзнялі ўжо яго і з ім наперавес дзесяць гадоў запар атакуюць бастыёны праціўнікаў. Вось толькі атакі тыя, часам лабавыя мала што далі, акрамя адчування безвыходнасці і стомленасці для многіх. Вельмі ўжо нагадвалі яны знакамітыя кідкі польскай кавалерыі ў верасні 1939 года на нямецкі танкавы кулак Гудэрыяна: цяжка было з голымі шаблямі спыніць сталёвага монстра...

Атакі-мітынгі!.. Колькі ў іх было ўзлёту, рамантыкі! Немагчыма забыць незвычайнае ўражанне, асабліва ад першых з іх. А тыя, хто насмеліўся выступаць тады з трыбуны, здаваліся ледзь не багамі... Але хваля рамантыкі не даўгавечная. Замест яе мусіла прыйсці **арганізацыя, сістэма,** жорсткая і дакладная, можа, нават і такая, як у бальшавікоў. Але з тых жа трыбун казалі, што "мы пойдзем другім шляхам!" Арганізацыя, праўда, быццам бы і з'явілася. Нават і не адна... Ды вынікі **рэальныя** былі, мякка кажучы, неадэкватныя высілкам.

II

Патрэбна была, як паветра, арганізацыя. З жалезнай дысцыплінай, з аўтарытарнымі лідэрамі, здольнымі схільную да патэрналізму, моцна "ажаночаную" нацыю рашуча, памужчынску крута павесці за сабой. Але арганізацыі такога кшталту, якая б была здольная **рэальна** канкурыраваць за ўладу з ужо даўно існуючым і нядрэнна арганізаваным кланам, так і не з'явілася. Можа, і таму, што нябачныя "дырыжоры" працэсу, які пайшоў у канцы 80-х, не далі яе стварыць...

А хутчэй за ўсё яе адсутнасць — вынік пэўных індывідуальных асаблівасцяў некаторых нацыянальных лідэраў, шчыра ўпэўненых, што на хвалі развалу Саюза і поўнай дэмаралізацыі наменклатуры будзе лёгка рэалізаваць свае задумы. Магчыма, нават і рэаніміраваць нейкія ранейшыя, закансерваваныя за межамі краіны структуры. Але ўжо і на той час тыя структуры ў прыкладным сэнсе былі ілюзіяй. Паўплываць на сітуацыю ў Беларусі, у тым ліку і матэрыяльна, што таксама з'яўлялася абавязковай умовай умацавання настворанай краіны, беларускія эмігранты былі, на вялікі жаль, не ў стане.

А вось аўтарытарныя лідэры былі. І не адзін... У 1994 годзе ў адкрытым і жорсткім сутыкненні перамог найбольш прыдатны да рэальных беларускіх умоў. Ён і павёў нацыю беларусаў, але ў іншым, чым уяўлялася многім з нацыянальных лідэраў, кірунку. Факты бязлітасна пацвярджаюць немалы ўдзел многіх сённяшніх апазіцыянераў, як дэпутатаў парламента 12-га склікання, часам, можа, і міжвольны, у "раскручванні" аднаго са сваіх калег. А найбольшая заслуга ў гэтым аднаго з былых спікераў парламента, які, можна сказаць, "благаславіў" таго самага дэпутата на вялікія справы! А там, маўляў, відно будзе. Відно стала вельмі хутка...

А асноўная маса саветызаванага наскрозь грамадства ўвогуле адштурхоўвала беларускасць і незалежнасць, як нешта чужароднае. Так і раб, не ведаючы, што такое свабода, адвяргае яе, асабліва, калі мае ў руцэ кавалак хлеба, толькі што атрыманы ад гаспадара. А калі да хлеба таго яшчэ і масла паабяцана заўтра, то раб і цэлую філасофію сачыніць, дзе грунтоўна дакажа, што сапраўднай свабоды наогул няма, а замест яе, маўляў, толькі ўсвядомленая неабходнасць...

III

Такім чынам, для паспяховай спробы атакі за дзяржаўнасць, для поўнага ўзяцця нашай бюракратычна-камуністычнай Бастыліі бракавала сілы і магчымасці. Лёгкім кавалерыйскім наскокам ўзяць гэтую "крэпасць" не ўдалося. Тым не менш, воляю абставін незалежнасць Беларусі ў канцы 1991 года з'явілася і была прызнана сусветнай супольнасцю. Дзесьці з сярэдзіны 1995 года пачаўся новы этап палітычнай барацьбы ў нашай краіне. Барацьба за рэальны суверэнітэт перайшла са стадыі "рэвалюцыйнай" у стадыю зацяжную...

Са шматлікіх войнаў у нашай гісторыі, асабліва з апошняй, мы назапасілі вельмі шмат ваяўнічасці і агрэсіі і, вядома, страху. Вайна і сёння ў нашай генетычнай памяці многае вызначае і менавіта з яе меркамі мы падыходзім да многіх з'яў, у тым ліку і да палітычных. Можа, якраз таму наша нацыя з упартасцю, прыдатнай для лепшага выкарыстання, не хоча бачыць сённяшнія рэаліі. Але для яе псіхічнага здароўя, для далейшага шляху наперад нельга жыць адным толькі ваенным мінулым. Для руху наперад як паветра неабходны новыя імператывы.

Але якраз іх нам і бракуе. У выніку сёння на Беларусі мала хто будуе, а ваююць практычна ўсе з усімі, забыўшы ўжо, мажліва, першакрыніцу канфлікту. Наша сённяшняе жыццё, найперш палітычнае, моцна прасякнута духам сапраўднай вайны. Не, мы не адстойваем сваю зямлю ад нападу звонку. Беларусы апантана ваююць самі з сабою — левыя з правымі, нацыяналісты з інтэрнацыяналістамі і г. д. Гэта на Захадзе могуць на палітычных франтах ваяваць ненасамрэч. Згодна з іхнімі правіламі гульні, палітычныя апаненты не ёсць ворагі ў літаральным сэнсе гэтага слова, яны хутчэй спаборнікі-спартсмены, зацікаўленыя ў выніку перамогі атрымаць свой прыз. У нас — усё інакш. Палітычных праціўнікаў мы са спакойным сумленнем залічваем у стан смяротных ворагаў...

Многія ўвогуле ўспрымаюць сённяшні палітычны стан рэчаў, калі беларускасць і незалежнасць ганьбуюцца тымі, хто павінен быў бы іх абараняць, — як нейкую фатальную непазбежнасць, што быццам бы наканавана нам за грахі нашых продкаў. Маўляў, не лёс!.. Але ж фатальнасць якраз у іншым — у непазбежным вяртанні нашай краіны на магістральны шлях усіх цывілізаваных народаў свету! Шлях Караджыча, Мілошавіча, Саддама Хусейна, Кадафі заведама бесперспектыўны і рана ці позна прывядзе ў тупік.

Сёння ўсё больш становіцца зразумелым, што неверагоднае ажыўленне нацыянальных пачуццяў і рухаў напрыканцы XX стагоддзя не ёсць нейкі нонсенс, а вельмі заканамерны працэс, які актыўна ідзе насуперак шматлікім прарокам і заклінальнікам ягонага заняпаду. Нашая беларускасць, відавочна, сёння ці не самы найпрагматычнейшы крок, бо за ёю ёсць ужо значны духоўны патэнцыял. Сучасныя геапалітычныя тэндэнцыі сведчаць, што нацыянальна-вызвольныя працэсы ўжо нікому не ўдасца спыніць. Але яны ж пацвярджаюць, што для стварэння паўнацэннага дзяржаўнага механізму неабходна паўнацэнная дзяржаўная і нацыянальная ідэалогія.

Узнікае ўражанне, што гэта пачынаюць разумець і сённяшнія кіраўнікі Беларусі. У розных варыяцыях з'яўляюцца дзіўныя, на першы погляд, публікацыі і выступленні, у якіх прысутнічаюць у той ці іншай форме заклікі да ўмацавання статуса беларускай мовы, як дзяржаўнай, да напаўнення суверэнітэту краіны рэальным зместам, да змены аднабаковай палітычнай дактрыны. Амаль адкрытым тэкстам сцвярджаецца, што прарасійская арыентацыя для нашай краіны пры яе магчымасцях — геапалітычны нонсенс. (Гл., напрыклад, "Народную газету" за 20.06.98: "Абноўленая Беларусь: прагноз на XXI стагоддзе" і г. д.).

Можна, вядома, лічыць гэта звычайнымі прапагандысцкімі пробнымі шарамі ў хітрых лабірынтах езуіцкай палітычнай метадалогіі. А можна думаць і інакш, бо дзіўная, незразумелая і настойлівая палітычная суіцыднасць сённяшняй уладнай эліты стала сапраўды відавочная практычна ўсім. А шмат якія каляўладныя ідэолагі быццам спецыяльна працягваюць займацца разбурэннем яе інстытутаў. Адсутнасць духоўнага "начыння" ўладнага пірага бачная, відаць, сёння не толькі для нацыянальна-свядомай інтэлігенцыі, але, мусіць, і для многіх членаў кіраўнічай каманды. Нельга сячы сук, на якім сядзіш — ён рана ці позна рухне долу, тады можна не толькі косці паламаць...

І ўсё ж, нягледзячы ні на што, найбольш "фаварытныя" ідэолагі сённяшняй уладнай эліты па-ранейшаму ўпарта выкарыстоўваюць у сваім ідэалагічным арсенале дарэшты сатлелыя і ўжо проста непрыемнага паху дактрыны і ідэалагемы. Як "ревнители" славяншчыны і імперскіх расійскіх інтарэсаў яны ці не святейшыя за самога папу рымскага, г. зн. уласна расійскіх элітарных імперскіх ідэолагаў. Самае сумнае і смешнае ва ўсім гэтым, што ў Расіі далёка не ўсе гэткі імпэт належным чынам ацэньваюць. Адсюль і крыўды нашых тутэйшых славянафілаў. Не могуць зразумець яны, што да такога кшталту людзей заўсёды было, мякка кажучы, даволі складанае стаўленне, безадносна да ступені іх карыснасці.

І ўвогуле, неразуменне прыярытэтаў нацыянальных інтарэсаў перад інтарэсамі замежнымі не ёсць нейкая памылка, ці "заблуждение", як сёння спрабуюць даказаць некаторыя "нацыянал-лакалізаваныя" апалагеты ўлады. Гэта хутчэй сутнасны светапогляд, а больш дакладна — ягоная поўная адсутнасць! І ў тым няма ніякай супярэчлівасці, бо прынцыпы таксама бываюць фальшывымі і ілюзорнымі і неразуменне сваіх памылак не ёсць перад судом гісторыі змякчальнымі абставінамі...

IV

Што да сённяшніх апанентаў улады, то, як мы ўжо гаварылі вышэй, бяда большасці з іх — у фатальнай асуджанасці ці, як як напісаў у газеце "Наша слова" (N N 20, 27.05.98) А. Жукоўскі з Гародні, у тым, што дзейнічаюць яны з перакананасцю ў немагчымасці сваёй перамогі. З гэтага ён робіць выснову, што стратэгія цалкам аддаецца "варожаму" боку. Корань ліха, сцвярджае А. Жукоўскі, у таемнай непавазе да сябе, у захапленні сілаю ворага, прыгажосці і магутнасці злога... Можна сказаць, патрапіў у цэль. Злое амаль заўсёды знешне вельмі прываблівае. Але лексіка, як бачым, даволі спецыфічная — зноў "ворагі"... І той рэзерв пашырэння ўласна беларускага светапогляду, які гэты аўтар бачыць у выкарыстанні нетаталітарных канцэпцый, што ўтрымліваюць плюралізм, павагу да індывідуальнага і г. д., якраз супярэчыць такой лексіцы.

"Вычляненне", а потым і знішчэнне ворагаў нараджае іншых, яшчэ больш небяспечных. Нашых т. зв. ворагаў куды прадуктыўней паспрабаваць перахрысціць у сваю веру. Яшчэ раз падкрэслім — непераадольнай бездані між намі пакуль яшчэ няма. Рэч, вядома, не ў згодніцтве аўтара, дарэчы, характэрным для беларусаў, а ў няўхільным перакананні, што шлях да выратавання нашай беларускасці, незалежнасці найперш у руках саміх беларусаў. Прычым беларусаў з рознымі поглядамі, якія, на думку аўтара, пакуль яшчэ не сталі сапраўднымі **ворагамі**. І не дай Бог, каб сталі... З сённяшнімі "ворагамі", паўторым, можна пакуль яшчэ гаварыць, але хто гэта робіць? Абодва бакі проста не ўмеюць зносіцца спакойна і нармальна, у межах нарматыўнай лексікі. Замест гэтага — чыста бальшавіцкая непрымірымасць: ворагі, фашысты і г. д.

Ніхто не сумняваецца, што многія з нас змогуць не пашкадаваць жыцця ў нацыянальна-вызвольнай барацьбе са зброяю ў руках, але гэта — спосаб **апошняга рубяжа**. Да яго ёсць яшчэ вельмі шмат магчымасцяў. А інакш, як піша згаданы намі А. Жукоўскі, адбываецца сакралізацыя працэсу змагання. Болей за тое: на нашу думку, працэс гэты становіцца самакаштоўным і самадастатковым, г. зн. бязмэтавым і разбуральным.

Галоўная прычына гэтай сакралізацыі барацьбы, ці нават вайны — найперш у згаданай вышэй патэрналізацыі нацыі, якая была, зрэшты, характэрная для яе заўсёды, а асабліва выявілася ў апошняе дзесяцігоддзе. Той жа А. Жукоўскі вельмі слушна ў гэтым плане цытуе Абдзіраловіча: "не створым жа свайго беларускага месіянізму". Але мы ўжо стварылі і імгненна сталі заложнікамі асабістых амбіцый, хібаў характару канкрэтных лідэраў. Нечыя асабістыя комплексы пры дапамозе сучасных масіраваных сродкаў інфармацыі могуць хутка стаць доляю цэлага народа. Відаць, менавіта пра гэта гаворыцца ў святой Бібліі: "Не ствары сабе куміра..."

Нецярпімасць на асабістым узроўні, помслівасць, асабістая канкурэнцыя пэўных палітычных месіяў апускае маладую дзяржаву ў цэнтры Еўропы, гэтак нечакана утвораную Богам, у бездань канфліктаў, і мы замест таго, каб усе разам мацаваць яе, часта выконваем волю, часам вельмі нядобрую, сваіх некаторых лідэраў.

V

Сёння ў дзяржаўных СМІ шмат гаворыцца пра нечуваную стабільнасць становішча ў нашай краіне, пра моц і трываласць яе ўлады на фоне акаляючага нас усеагульнага развалу. Моц і трываласць любой улады — у пралічванні на некалькі крокаў наперад магчымага развіцця падзей, у спробе апярэдзіць час прэвентыўнымі захадамі, маючы на ўвазе і розныя варыянтасныя рашэнні. Адсутнасць альтэрнатыўных захадаў, нават на ўзроўні вядучых стратэгічных даследчых інстытутаў — гэта сапраўды гучыць горда! Маўляў, якія ж мы маналітныя! Мы можам, бадай што, гаварыць сёння толькі пра адзін моцны бок улады — яе традыцыйна кансерватыўныя структуры на месцах, якія ў функцыянальным плане фармаваліся не адно дзесяцігоддзе, а ў "духоўным" — практычна амаль два стагоддзі. І ўсё ж такі трывалы бюракратычны апарат ва ўмовах эканамічнай стагнацыі паступова становіцца пачварай самакаштоўнай... Але самае цікавае ў тым, што, нягледзячы на сваю такую вось "пачварнасць", ён можа быць гранічна карысны не толькі сённяшняй уладзе. У тым выпадку, калі новая ўлада рэвалюцыйным штурмам яго не разбурыць...

Гэты апарат, ці наменклатура, даў цяперашняму Прэзідэнту ў свой час занадта вялікі карт-бланш, спадзеючыся пазней усё вярнуць "на круги своя", але калі спахапіўся, то аказаўся моцна зацугляным. Спрадвеку наша Беларусь (і тут яна моцна падобная на Расію) была гатовая паверыць "моцнаму" і пайсці за ім, пайсці апантана і безаглядна. Але далей пачынаецца адрозненне. Расія, як пісаў нехта з вядомых расійскіх публіцыстаў, ужо на другі дзень тых, каму паверыла і за кім пайшла, гатовая падазраваць ва ўсіх смяротных грахах. І як вынік — з такой жа страсцю распнуць. Беларусы куды большыя адналюбы — яны любяць сваіх выбраннікаў вельмі доўга і ўпарта. Любяць, нават калі ўжо ведаюць, што "яна" ці "ён" здраджваюць і ходзяць "налева". І найперш таму, што падазраюць у сабе абмежаваную колькасць любові ўвогуле, баяцца, што на новую жарсць іх ужо проста не хопіць...

Каб пераадолець гэтую бяздумную любоў, сляпы месіянізм, нам востра патрэбная новая палітычная і нацыянальная ідэалогія. Разам з тым, безумоўна, патрэбна і пэўная міфалогія, заснаваная на жывой і яскравай надзеі, пазбаўленая традыцыйнага плач-жальбавага фону. Такога кшталту міфалогію Амерыка, напрыклад, у свой час збудавала праз кіно, якое там стала сапраўдным фальклорам. Менавіта праз кіно яна стварала свой уласны вобраз, сама потым у яго паверыла, пайшла за ім і прымусіла паверыць увесь свет...

Мы такой магчымасці не маем, але **пакуль што** можам ствараць сваю ўласную ідэалогію праз слова — яркае, моцнае, прыцягальнае і, безумоўна, палкае. З існуючым міфам нельга змагацца — яго можна выцесніць іншым міфам, больш яркім і захапляльным...

Увогуле нацыянальная ідэалогія — гэта не магчымасць разарваць на грудзях кашулю і громагалосна паведаміць аб сваёй беларускасці. Нельга называць сябе патрыётамі, як пісаў расійскі акадэмік Ліхачоў, падразумяваючы пад гэтым не толькі гонар за сваю нацыянальную прыналежнасць, але і агрэсіўную нянавісць да чужых. Толькі што вылезшы з маны — бо што такое савецкая ідэалогія, як не ўзаконеная мана, — мы не павінны стварыць ману новую: псеўданацыяналізм, псеўдапатрыятызм...

## Ён прысутнічае сярод нас...

3 верасня мінулага года выдатнаму беларускаму празаіку і эсэісту, таленавітаму даследчыку літаратуры, грамадскаму дзеячу Алесю Адамовічу споўнілася б 70 гадоў. У сувязі з гэтым юбілеем прайшоў шэраг мерапрыемстваў, сярод якіх былі і Адамовічаўскія чытанні, што ладзіліся на афіцыйным узроўні — Інстытутам літаратуры імя Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі Беларусі. Матэрыялы іх былі рэкамендаваны да друку Вучоным саветам інстытута. Сёння атмасферу, што панавала ў час Чытанняў 5 верасня 1997 года, у многім можна адчуць, пазнаёміўшыся са зместам выступленняў і дакладаў — дзякуючы Міжнароднаму фонду "Беларускі кнігазбор" пабачыў свет тэматычны зборнік "Алесь Адамовіч і час".

Адкрываецца зборнік уступным словам акадэміка-сакратара Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў НАН Беларусі А. Падлужнага. "Постаць Алеся Адамовіча" — даклад акадэміка І. Навуменкі. Ён, у прыватнасці, зазначыў: "Адамовіч яшчэ не стаў музеем, ён прысутнічае сярод нас, бо тыя пытанні, якія вырашаў ён, яшчэ не вырашаны канчаткова і не хутка будуць вырашаны, так што мы не толькі можам раіцца з Аляксандрам Міхайлавічам, згаджацца ці не згаджацца, але і адчуваць яго ў жывым страі жыцця".

Член-карэспандэнт НАН Беларусі М. Мушынскі ("Канцэпцыя беларускага рамана ў даследаваннях А. Адамовіча") прыйшоў да высновы, што "багатая спадчына Адамовіча-вучонага і Адамовіча-пісьменніка — гэта велізарны мацярык, які яшчэ чакае навуковага асваення. Спадзяюся, што сённяшняя нашы першыя навуковыя чытанні стануць адчувальным творчым імпульсам у высакароднай справе — годна ўшанаваць памяць дарагога ўсім нам Аляксандра Міхайлавіча, які сваё нялёгкае жыццё прысвяціў народу, літаратуры, Бацькаўшчыне".

Акадэмік В. Каваленка засяродзіў увагу на аналізе дзённікавых запісаў пісьменніка, зробленых у розныя часы, якія, дзякуючы публікацыям, нядаўна сталі набыткам чытача ("Запісныя кніжкі" Алеся Адамовіча).

Шматгранная постаць А. Адамовіча-пісьменніка, вучонага, чалавека, грамадскага дзеяча — паўстае з дакладаў М. Тычыны "Алесь Адамовіч: жыццё і творчасць", Т. Тарасавай "Асоба Максіма Гарэцкага ў асэнсаванні Алеся Адамовіча", А. Яскевіч "А. М. Адамовіч у гістарычных даляглядах", В. Козіч "Урокі эстэтыкі Алеся Адамовіча", Г. Адамовіч "Сусветная літаратура і беларускі кантэкст".

Шырокі ахоп тэм, праблем у выступленнях даследчыкаў з Гомельскага дзяржаўнага універсітэта: І. Штэйнер — "Л. Талстой і А. Адамовіч: урокі жыцця і творчасці", А. Мельнікава — "Творчасць К. Чорнага 20 гадоў у прачытанні А. Адамовіча", В. Шынкарэнка — "Самапавага літаратуры", У. Каваленка — "Спецыфіка мастацкага канфлікту ў дылогіі А. Адамовіча "Партызаны", С. Ханеня — "Ці трэба баяцца "чужых класікаў"?", С. Цыбакова — "Спецыфіка мастацкага зместу ў аповесці-прытчы А. Адамовіча "Апошняя пастараль".

У еўрапейскім кантэксце зірнула на творчасць А. Адамовіча доктар філалогіі Д. Шпрынгман ("Творчыя прынцыпы Алеся Адамовіча і гуманістычная традыцыя"): "Завершанасць жыццёвага і творчага шляху Алеся Адамовіча прымушае задумацца аб месцы яго творчасці ў сучаснай культуры, разглядаючы яго не толькі ў рамках нацыянальнай, ваеннай літаратуры, але і ў кантэксце еўрапейскага філасофска-інтэлектуальнага накірунку. Відавочна, што характар мастацкага адлюстравання рэчаіснасці вылучае Алеся Адамовіча ў адзін шэраг з Максімам Фрышам, Гюнтарам Грасам і Крысцінай Вольф. Вызначальная якасць гэтых майстроў слова — канцэптуальнасць, ідэйна-эстэтычная зададзенасць іх творчасці, ягледзячы на падначаленасць пэўнай ідэйна-філасофскай праграме з яе глыбокім аналізам стану сучаснага свету, напамінкам чалавецтву аб пагрозах фізічнага і духоўнага кшталту".

Падагульненне гаворкі — у заключным слове члена-карэспандэнта НАН Беларусі У. Гніламёдава: "Чалавек чулага сэрца і высакароднай душы, шчодра адораны дабрынёй і шматгранным талентам, А. Адамовіч пакінуў глыбокі след у беларускай навуцы і літаратуры. Яго багатая навуковая і мастацкая спадчына — неад'емная частка нашай культуры і духоўнасці, без чаго немагчымы мэтанакіраваны рух у будучыню, вартую чалавека. Прапанаваныя ім ідэі, створаныя навуковыя канцэпцыі, а таксама велічныя мастацкія вобразы засёды будуць жывіць і натхняць творчыя здзяйсненні тых, хто ідзе і пойдзе далей.

Віталь БЕРДНІК

ЮБІЛЕЙ

# І вельмі шмат журбы...

***Сёння спаўняецца 80 гадоў з дня нараджэння вядомага крытыка і літаратуразнаўцы, выдатнага знаўцы паэзіі Рыгора Бярозкіна. Рыгор Саламонавіч пражыў няпростае жыццё. Хапіла на яго долю выпрабаванняў, спазнаў ён, што такое беззаконне, зведаў, як цяжка, калі табе не давяраюць. Прапануем увазе чытачоў успаміны пра Р. Бярозкіна Валянціна Тараса, які сябраваў з ім.***

Рыгор Саламонавіч Бярозкін, літаратурны крытык, тонкі знаток паэзіі (не толькі беларускай, але і сусветнай), быў чалавекам драматычнага лёсу. Яму было дваццаць два, калі ў красавіку 1941 года ён быў арыштаваны органамі НКУС як "беларускі буржуазны нацыяналіст", удзельнік "антысавецкага загавору" і пасаджаны ў Чэрвеньскую турму. 22 чэрвеня пачалася вайна, і ў ноч на 26, калі немцы падыходзілі ўжо да Чэрвеня, палітзняволеных Чэрвеньскай турмы вывелі на расстрэл у бліжэйшы лес.

Бярозкіну цудам удалося ўратавацца: калі прагрымелі першыя стрэлы, ён упаў і прытвaрыўся мёртвым. Расстрэльная каманда нервавалася, спяшалася, не правярала, хто мёртвы, хто жывы, і Рыгор Саламонавіч адляжаўся сярод трупаў. Затым ён дабраўся да Магілёва, там з'явіўся ў ваенкамат, сказаў, што ўцёк з захопленага немцамі Мінска, што дакументаў у яго няма, таму што дом яго разбамбілі і ўсе дакументы загінулі ў агні: "Прашу накіраваць мяне на фронт".

Ён праваяваў чатыры гады пад сваім уласным імем і прозвішчам, удзельнічаў у абароне Масквы, у Сталінградскай бітве, некалькі разоў быў паранены, узнагароджаны баявымі ордэнамі, атрымаў афіцэрскае званне і закончыў вайну ў Берліне, дзе стаў працаваць у адной з газет савецкіх акупацыйных войск. А ў ліпені 1949 года яго зноў арыштавалі, дадаўшы да папярэдняга абвінавачвання яшчэ адзін злачынны ўчынак: уцёк з месца зняволення!

Дапытваў яго той самы следчы, які вёў яго справу да вайны, і следчы гэты адразу ж сказаў яму, што "сваім неабдуманым учынкам" ён, Бярозкін, вельмі моцна ўскладніў сваё становішча. Бярозкін не мог сказаць следчаму, што ўцёк з-пад расстрэлу, што "абдумваць" было некалі, — следчы тут бы прышыў яму "злосны паклёп на нашы органы, якія нікога і ніколі не расстрэльваюць без суда!" Ён толькі спытаў, як можна называць уцёкамі тое, што з ім адбылося? Ды і куды ён уцёк! Не да немцаў жа, а на фронт! "На фронт, на фронт! — перадражніў яго следчы. — Чаму ж ты, сука, не загінуў на фронце? Загінуў бы — і герой! Няма чалавека — няма справы. Спісана ў архіў. А ты аб'явіўся. І цяпер справу трэба даводзіць да канца. Сам вінаваты. І чхаць мне на тое, што ты ўцёк на фронт. Куды ты, яўрэй, мог яшчэ ўцячы ад немцаў? Але галоўнае тое, што ўцёк. Ад органаў уцёк, ад савецкага правасуддзя!" Арыштаванаму ў адказ на гэтую тыраду даводзілася маўчаць. Змоўк на нейкі час і следчы. Думаў. А потым раптам уздрыгануўся: "Вось ты пісьменнік, так? Разумны, так? А ведаеш, што Максім Горкі пра чалавека сказаў? Ведаеш, не? Ну, што ён сказаў?" Бярозкін адказаў: "Гэта агульнавядома. Горкі сказаў, што чалавек — гэта гучыць горда..." — "Не!" — радасна ўскрыкнуў сле дчы. — Горкі сказаў, што калі чалавек не здаецца — яго знішчаюць!" — "Горкі сказаў, калі **вораг** не здаецца..." — паспрабаваў удакладніць цытату Бярозкін, але следчы закрычаў: "Заткніся! Чалавек, які сюды трапіў, і ёсць вораг! Так што каціся, сука!"

Цытату з Горкага ў інтэрпрэтацыі гэбісцкага гаркаведа Бярозкіну давялося абдумваць амаль восем гадоў — у адным з лагераў, размешчаных далёка на поўначы. Толькі ў 1956 годзе ён выйшаў на свабоду з даведкай аб поўнай рэабілітацыі. Вярнуўся ў літаратуру, стаў працаваць у рэдакцыі "Нёмана", загадваў двума аддзеламі — паэзіі і крытыкі. У "Нёмане" мы з ім і пазнаёміліся, сталі блізкімі сябрамі. Гэтую гісторыю з цытатай з Горкага я пераказаў з яго слоў, хоць ён расказваў яе з гумарам, паказваючы свайго следчага, яго жлобскую, прыблатнёную мову, перадаючы, як следчы задумваўся: калупаўся ў носе і выцягваў з ноздраў "козлікаў", з вялікай цікавасцю разглядаў іх, як правіў "гуманнасць": "Ведаеш, Бярозкін, я не хачу цябе біць, сіл няма, падла, учора перабраў, зразумеў, так? А біць трэба, з мяне ж запытаюцца, скажуць, што я, хлюпік, ворага шкадую. Я дзверы крыху прыадчыню, а ты крычы, зразумеў, так? Крычы, сука, мацней крычы!" (Следчы выконваў вядомую дырэктыву Сталіна і Жданава аб неабходнасці прымянення метадаў моцнага ўздзеяння пры допытах арыштаваных ворагаў народа, калі арыштаваныя не жадаюць супрацоўнічаць з органамі і добраахвотна даваць паказанні. Абгрунтоўвалася дырэктыва тым, што маўляў, у краінах капіталу ў адносінах да камуністаў прымяняюцца самыя садысцкія катаванні: вока за вока, зуб за зуб!.. І хоць гэтая дырэктыва была разаслана органамі НКУС у 1937 годзе, яна дзейнічала і ў сорак першым, і ў сорак дзявятым, і ў наступныя гады — да самага XX з'езда КПСС.)

Прыкладна ў пяцьдзесят восьмым годзе Р. Бярозкін даведаўся, што былы следчы звольнены з органаў і працуе недзе на дрывяным складзе ўчотчыкам. І вырашыў з ім сустрэцца.

— Што ён вам сказаў, Рыгор Саламонавіч? Як паводзіў сябе?

— А вельмі проста! Скардзіўся на жыццё, што жонка яго кінула, што зарплата фігавая. І, ведаеш, не апраўдваўся. Маўляў, час быў такі, а я чалавек маленькі. Што загадвалі, тое і рабіў. Кажа, ты не з мяне пытайся, а з тых, хто цябе пасадзіў, хто на цябе "тэлегу" пісаў.



— Сказаў, хто?

— Сказаў. Хоць я даўно і без яго ведаў.

— Хто?

...З адным з аўтараў "тэлегі", на якой Бярозкін паехаў у ГУЛАГ, мы сядзелі за адным сталом у рэстаране "Беларусь", у тым старым, пры старой гасцініцы "Беларусь", — Грыша, я, Навум Кіслік, Федзя Яфімаў. "Тележный мастер", маленькі, тоўсты, з мутнслівa, спалохана бегаючымі вачыма нас частаваў. Гэта былі дні XXII з'езда КПСС, з маўзалея вынеслі цела Сталіна, ляцелі, са сваіх пастоў высокія партыйныя і гэбэшныя чыны, — здавалася, настае расплата за трыццаць сёмы, за ледзь не прайграную вайну з Гітлерам, за "справу ўрачоў". За ўсё. І "тележный мастер" нерваваўся, крактаў, соп, а Грыша, пацягваючы з кілішка каньяк, глядзеў з нейкай пакутлівай цікавасцю на таго, хто пацеў, раз за разам аблізваў перасохлыя вусны — пузаценькага "тележника" і пытаўся:

— Айзік, скажы мне ўсё ж, чаму ты гэткае г...? Я мог цябе пасадзіць, але не пасадзіў. Ты мог мяне не пасадзіць, але пасадзіў. Чаму, Айзік?

Айзік узмахваў кароткімі, пульхнымі ручкамі.

— Ай! Перастань! Дзяўчынка, дайце нам яшчэ бутэльку каньяку!

Дзіўна, што Бярозкін часта кантактаваў з гэтым чалавекам, мог гадзінамі спрачацца з ім пра літаратуру, і заўсёды, калі гаворка заходзіла пра Айзіка, казаў: "Ведаеце, хлопцы, мне яго шкада. Ён разумны, усё разумее, начытаны феноменальна. Хоць, канечне, ён і г... Таму што палахлівец. І ведае сам, што палахлівец, таму цынічны і нахабны, як усе палахліўцы. Але размаўляць з ім цікава".

Ён быў здзіўляюча цярплівы да людзей, нават калі яго закранаалі за жывое, наўмысна, з подлым разлікам ці, здаралася, проста па эмацыянальным невуцтве, па убо-

# Слова пра Міцкевіча

Мерапрыемствы, прысвечаныя 200-годдзю з дня нараджэння слаўнага сына беларускай зямлі Адама Міцкевіча, набываюць у нашай краіне размах. З'явіліся і кніжныя дарункі юбілею. Ці не першы з іх выйшаў дзякуючы Нацыянальнаму навукова-асветніцкаму цэнтру імя Францішка Скарыны пры Міністэрстве адукацыі Рэспублікі Беларусь, Польскаму інстытуту ў Мінску і Беларускаму фонду культуры — гэта зборнік "Адам Міцкевіч і Беларусь" (укладальнік В. Грышкевіч, навуковыя рэдактары А. Мальдзіс і Т. Нягодзіш (Польшча)".

Адкрываецца ён і ўступным артыкулам А. Мальдзіса "Зямля Навагрудская, краю мой родны...", у якім зроблена запеўка да важнай і вельмі патрэбнай сёння размовы: "Кім быў Адам Міцкевіч паводле сваёй свядомасці, сваёй нацыянальнай прыналежнасці? Пытанне, безумоўна, у многім рытарычнае. Бо найперш ён стаў геніем польскай паэзіі і дзякуючы гэтаму ўзышоў зоркай першай велічыні ў літаратуры славянскай, літаратуры еўрапейскай, літаратуры сусветнай. Але патрыятызм Міцкевіча — з'ява складаная, "шматслойная". Бо найперш ён прызнаваўся ў любові да той зямлі, дзе нарадзіўся і ўзрос, дзе адчуў прыгажосць навакольнага свету, дзе далучыўся да народных песень і казак, творча выкарыстаных потым у баладах і "Дзядах"... І беларускае сялянскае атачэнне, якое ён добра ведаў па вясковых кірмашах і вяселлях, для яго было сваім, блізкім, родным. Ён усведамляў адметнасць гэтага атачэння (можа, не столькі этнічную, колькі саслоўную) ад таго шляхецкага асяроддзя, да якога належаў сам. Але, як паказаў польскі даследчык Анджэй Кэмпфі, у перапісцы з сябрамі, у "Дзядах", у артыкулах для "Pielgrzyma Polskiego" дакладна называў імя народа, ад якога не аддзяляў сябе, — народа "беларускага".

Гэтая тэма набывае шырокае гучанне ў першым раздзеле "Артыкулы, прысвечаныя паэту і яго спадчыне". Кола аўтараў, чые развагі змешчаны на гэтых старонках, прадстаўнічае, а часава публікацыі ахопліваюць вялікі прамежак. Прынамсі, ёсць магчымасць прачытаць тут (або перачытаць) матэрыялы В. Каратынскага "Некалькі падрабязнасцяў пра сям'ю, месца нараджэння і маладосць Адама Міцкевіча" і "Дадатак да біяграфіі Адама Міцкевіча", пазнаёміцца з артыкуламі А. Ельскага "Адам Міцкевіч на Беларусі", са "словам перакладчыка" В. Дуніна-Марцінкевіча "З А. Міцкевіча. Пан Тадэвуш", што з'явіліся яшчэ ў мінулым стагоддзі. Тут жа і публікацыі савецкага часу — таго перыяду, калі пра многіх "несавецкіх" творцаў, не зважаючы на іх веліччыню, трэба было гаварыць асцярожна — "Светлыя старонкі дружбы" Я. Коласа, "Вечна жывая паэзія" Я. Купалы... Да гонару навуковых рэдактараў, яны не паспяшаліся ў некаторых месцах зрабіць купюры, захавалі адметнасць арыгінала, тым самым прытрымліваліся аб'ектыўнасці, якой бы пры гэтым праўда ні была.

Астатнія матэрыялы гэтага раздзела можна тэматычна падзяліць на некалькі груп. Пе-

# Зміцер Вішнёў і Вялікая Афрыканская мара

Напярэдадні прэзентацыя сваёй кнігі “Штабкавы тамтам” паэт Зміцер Вішнёў здзейсніў патрыятычны ўчынак. Частку ганарару, атрыманага за кнігу, ён інвеставаў у мясцовую прамысловасць. Ён купіў у гаспадарчай краме недзе каля двух дзесяткаў цынкавых вёдраў, якія пазней скарыстаў як тэатральны інвентар у часе прэзентацыі-перфоменсу. Магчыма, паэт зрабіў гэта ў адказ на заклік кіраўніцтва нашае краіны купляць мясцовыя тавары, аддаючы ім перавагу над рэчамі замежнага вырабу. А можа, патрыятызм тут ні пры чым, бо цынкавае вядро і ў Афрыцы будзе цынкавым вядром. Як, дарэчы, і афрыканскі тамтам перанесены ў беларускую рэчаіснасць, застаецца тамтамам. У гэтым я ўпэўніўся ў часе прэзентацыі, якая праходзіла пад гукі гэтага экзатычнага інструмента. Прэзентацыя-перфоменс была задумана як візуалізацыя вербальных вобразаў “Штабкавага тамтаму”, як відарыс беларускай версіі афрыканскай ментальнасці. А каб гэта зразумелі і тыя, хто паэзіі Вішнёва не чытаў, на імпрэзе, акрамя тамтамаў, прысутнічалі кактусы (пасаджаныя ў тыя вёдры, што Вішнёў купіў у гаспадарчай краме) і “мясцовы чалавек”, пафарбаваны пад негра і чамусьці апрануты ў мундзір унтэр-афіцэра Бундэсвера (Люфтвафэ). Гэтага “госця з Афрыкі” паэт увесь час спрабаваў падсунуць якому-небудзь журналісту для інтэрв'ю.



Як на маю думку, перавод слова ў дзею атрымаўся неадэкватны і занадта спрошчаны. “Вялікая Афрыканская мара” Вішнёва аказалася занадта вялікаю для сціплага памяшкання галерэі “Шостая лінія”, і каб уціснуць яе ў гэтыя сцены, яе даваялося моцна пакрэмзаць, скараціць.

На гэтай імпрэзе я прыгадаў, як у маладосці я і мае сябры прыдумалі для сябе інтэлектуальную гульню: знайсці ў архітэктуры Мінска праявы стылю Ле Карбюзье альбо Альвара Аалта, французскую готыку альбо італьянскае барока, вобразы дойлідства дакалумбавай Амерыкі альбо Чыкага пачатку нашага стагоддзя. І што цікава, знаходзілі. Таму знайсці ў Беларусі Афрыку таксама, мабыць, няцяжка. Праўда, дасведчаныя людзі кажуць, што сёння Беларусь болей падобна на Лацінскую Амерыку.

П. ВАСІЛЕЎСКІ

# “Вожык” у чытачоў

Нядаўна члены рэдкалегіі часопіса “Вожык” пабывалі ў гасцях у сваіх чытачоў у старажытным Полацку, у Наваполацку і Верхнядзвінскім раёне. Сустрэчы прайшлі ў Полацкім педагагічным каледжы, у адной з Верхнядзвінскіх школ. Госці сустрэліся з работнікамі культуры Верхнядзвіншчыны і горада Наваполацка.

Аб планах часопіса, аб яго сувязях з аўтарскім актывам на месцах гаварылі галоўны рэдактар “Вожыка” пісьменнік Валянцін Блакіт, яго намеснікі паэты Генадзь Бураўкін і Навум Гальпяровіч. Ну і, безумоўна, гучалі вершы. Жадаючыя мелі магчымасць узяць аўтографы ў вядомых літаратараў, паказаць ім свае творы, пагаварыць аб сённяшнім стане беларускай літаратуры.

У сустрэчы прынялі ўдзел і прадстаўнікі мясцовых уладных структур, журналісты, актывісты Таварыства беларускай мовы, літаратурных аб'яднанняў Полацкага і Верхнядзвінскага раёнаў.

Н. К.

ПАЭЗІЯ

## Мікола МЯТЛІЦКІ



*Змытая плынню часу, як рачной хваляй, вёсачка Перавознікі застанецца на вілейскім узбярэжжы неўзабаве толькі журліва-самотным успамінам. Тут шчыльна, адно пры адным, месціліся чалавечыя котлішчы. Віравала жыццё, поўнае сваіх таямніц... Адно рэдкія дрэвы ды круглаверхія кустоўі здзічэлага бэзу асмужна ўскалыхнуць былую яву жыцця, якой гучна яшчэ на абсягах і маёй памяці — паміж 1967-ым і 1997-м.*

АЎТАР

# Перавознікі

## 1967

*Утома лета. Чысты плёс рачны.*
*Спаўзаюць сцежкі з траўнае кручэчы.*
*Аседлы, звычны побыт чалавечы.*
*Шнурочак хат. Ушчыльнена яны*
*Стаяць па-за платамі на ўзбярэжжы*
*У росхрысце жыццёвай гаманы.*
*Туману з вольхаў шэрая мярэжа*
*Плыве па рэчцы. Раніца ледзь-ледзь*
*Кранае шапкі круглаверхіх хвой.*
*Ужо небны дах расцвіў над галавой*
*І рыжы промень сонца вочы рэжа,*
*Цячэ-булькоча воднаю быстрой.*

*Вось рыпка дзверы крэкнулі сянец.*
*І шчасця белачубы пасланец —*
*Хлапчук заспаны — з хаты выбягае,*
*І ён, грыбной дыстанцыі ганец,*
*Хапіўшы кош, бяжыць, вачмі маргае.*

*Усё жывей вірують вёскі гукі:*
*Хапаюць корбу калаўрота рукі,*
*У глыбі зрубаў енчаць ланцугі,*
*П'юць плёскат вёдры.*
*Спрытныя маладкі*
*Нясуць да хат —*
*не ўсплёснецца — ваду.*
*І рыбакі садзяцца чынна ў лодкі,*
*Даводзяць нешта дзецям на хаду.*

*На беразе быстрыцкім грукат-гром:*
*Паўзе са стромы гусенічны трактар,*
*Дымком чыхае, каб круты характар*
*Пачуў, збудзіўся ранішні паром.*

*І вось ужо, замёршы на пароме,*
*Араты поля спачывае ў стоме,*
*Над Віліяй калышацца, плыве,*
*Бліскоча-грае шклінай ветравою*
*І ўжо, дарогу ўчуўшы пад сабою,*
*Стракоча зноў, уверх паўзе. Ў траве*
*Палошыць жоўты вывадак*
*курыны —*
*Піскляты сыплюць*
*к матцы пад крыло.*
*Бліз трое цётак з граблямі прайшло,*
*Дзяўчынкі дзве з даёнкамі ў маліны*
*На просеку спяшаюць за сяло.*

*Адэля ў файным квечаным убранні*
*Капейкі лічыць, усеўшыся за стол, —*
*Сабралася нядзеляй у касцёл.*
*Прастуе шпарка выганам да Яні,*
*Каб у хаўрусе рэчку пераплысць.*
*Іх вокліч двухгалосы над вадою*
*Далёка разлягаецца, ляціць.*
*Вясло на сонцы ў кроплях зіхаціць.*
*І цягнуць рукі пахам сырадою.*

*На беразе малеча з усёй вёскі —*
*Вяртаюцца з уловам рыбакі!*
*Язі лускою бліскочуць. Шчупакі*
*Ляжаць у лодках.*
*Лешч гарбаты, плоскі*
*Варушыць лена чорным плаўнікам.*
*Курыліха з суседам-рыбаком*
*Вядзе заўзята, хітра перамовы*
*І ўсё кідае вокам на ляшча.*
*“Дык, кажаш,*
*дзеўка з гораду прыедзе”, —*
*Рыбак, уважны цётчынай бяседзе,*
*У міску сыпле жменю драбнаты.*
*“А каб жа, сквапнік рыжы,*
*спрахнуў ты!” —*
*Злуецца цётка. На веласіпедзе*
*Вязуць улоў у торбах. Усе платы*
*Абцягнуты сятчатай павуцінай.*
*Пагодны дзень. Над кожнаю хацінай*
*Пярсцёнак сонца грае залаты.*

## 1997

*Пачатак дня. На беразе рачным*
*Стаяць самотна*
*дзве астатніх хаты.*
*І хвойнік нізкарослы і кудлаты*
*Да плоту падступае. Шызы дым*
*Плыве журботна, лена з каміноў*
*І сцелецца пад хмарнай павалокай.*
*І прахалода восені глыбокай*
*Балесна воку нагадае зноў —*
*Сышло жыццё адсюль, адшапацела,*
*Лісцяным роем з ліпы абляцела.*

*На селішчах былых шатрамі бэзу*
*Дзічэе памяць гулкае пары.*
*Сцінаюць сэрца посвістам вятры.*
*Сусед з хаціны выйшаў. Да зарэзу*
*Ад перапою смягне чалавек,*
*На лодцы едзе клянчыць чарку ў Гэлі.*
*У суме, адзіноце ды пахмеллі*
*Канае вёскі безуцешны век.*

*Разрытая бульдозерамі строма —*
*Раскопаны пакінуты кар'ер,*
*Нібы звярыны жудасны ашчэр.*
*Дзве баржы саржавелага парома.*
*Ды на ўзбярэжжы постаць*
*рослай ліпы*
*Калыша цень самоты на вадзе.*
*Пустэча, ціша. Крокаў анідзе.*
*Адно вятроў трывожныя усхліпы.*

*Рачная плынь нясе зялёнку-пену —*
*Скідае бруд смаргонскі сілікат.*
*Драпежны дзень, усяго жывога кат,*
*Цярусіцца накрапам горкім тлену*
*На стрэхі гэтых ацалелых хат.*

*У лесе — грукат.*
*Пляжыцца дзялянка.*
*Абед — замочка. П'яная гулянка.*
*Фарсовы падчырвонены фірмач*
*Дастаў з кішэні чорны калькулятар,*
*Вядзе падлік, вялікіх сум аматар,*
*Абернецца чым здзелка.*
*Сосен плач.*
*Лясы каўтае прагна згубы кратэр.*

*Бліскоча ноч агеньчыкам драпежным*
*Над Віліі замутненай вадой.*
*Прыблуднай браканьерскаю брыдой*
*На берагі ступае час начлежны,*
*Забойна токам электрычных вуд*
*Рацэ да ранку чыніцца прысуд.*

*На золку трактар шасне з гушчара;*
*Ён падбярэ і лодку, і улоў,*
*І трох ля пляшак зваленых “мурлоў”.*
*Крывяна ўспыхне чэзлая зара.*

*Здзічэлы сад апошні скіне яблык —*
*Ля папялішча чорнага умлеў.*
*Згарэла хата. Старавату хлеў*
*На сіверы сцінаецца, як зяблік,*
*Ды ўспамінае бачанае: шапку*
*Над хатай іскрамётнага агню,*
*Як дзверы адчыніліся і бабку*
*П'янчугі, ачмурэўшы, ў цішыню*
*Начы панеслі, кінулі на снег,*
*Як тая ўмольна, збыўшыся спакою,*
*На слуп агню жаганалася рукою*
*І так сканала ў страшны той начлег.*

*Прагляне сонца з хмараў невясёла,*
*Старэчых дзве суседкі да касцёла,*
*У лодку сеўшы, рушаць сярод дня,*
*Каб горычна укленчыць перад Богам,*
*Напомніць, што зямная іх дарога*
*Завершыцца ўжо хутка...*
*Цішыня*
*Сыходу кросны чорныя снуе*
*Над вамі, Перавознікі мае.*

## Алена ІГНАЦЮК

### Фантазія

*Я думаю*
*а думка мая спіць.*
*Навошта спіць,*
*Калі прачнуўся Вецер?*
*Мой Вецер хоча думку паўтарыць,*
*Як бачыць мяне*
*ў новым крэп-жаржэце.*

*Як плачу я,*
*то слёзы мае ў смех.*
*Навошта ў смех,*
*Калі злуецца Вецер?*
*А Ветру цалаваць мяне не грэх,*
*Як бачыць мяне ў новым крэп-жаржэце...*

*Калі прашу,*
*дык у каго прашу?*
*Пра што прашу,*
*Калі цалуе Вецер?*
*А мо да Вас, любоў сваю нашу*
*Ўбалёвым і багатым крэп-жаржэце...*

## Міра ЛУКША

•

*Калі напішаш апошні верш*
*убачыш што літары як сухастой*
*хочуць паказаць табе і іншым лес*
*чорнай ссохлай азбукай галін і кветак*
*пустацвету збуцвелай кары і лістоты*
*лес адшумеўшы і вечна зялёны*

*Як пісаць верш першы і апошні*
*а ў белы дзень мароз кладзе*
*крышталёвыя іголкі на шыбе*
*недасягнуты і нетрывалы ўзор*

## Валянціна ГІРУЦЬ-РУСАКЕВІЧ

•

*Я цябе не забуду ніколі,*
*Рады гэтаму? Можа, й не...*
*Зноў бясконца пяшчотна да болю*
*Успамін наплыве, ахіне.*

*Можа, хтось назаве распуснай*
*Мару, што не дае заснуць,*
*А я так хачу твае вусны*
*Асцярожна сваімі крануць.*

*І калі палынова-салодка*
*Затрывожыць нешта душу,*
*Ведай, я ў сваім “далёка”*
*Успамін аб табе варушу.*

## Ірына ДАРАФЕЙЧУК

•

*Прыдумваю цябе —*
*спакойнага і сумнага —*
*За кніжкай, ля вакна, на возеры,*
*у сне...*
*Каб гэтак не было безабаронна мне,*
*Прыдумваю цябе —*
*спакойнага і сумнага.*

*І ўсё маё жыццё ў прыдумках міне...*
*У цішыні лясной,*
*сярод натоўпу тлумнага*
*Прыдумваю цябе спакойнага*
*і сумнага.*
*За кніжкай. Ля вакна. На возеры.*
*У сне.*

Міхась ДАНІЛЕНКА

# АПАВЯДАННІ ПРА РЭЧЫ



ПРОЗА

## Кульба

Быццам сірата, яна прытулілася ў калідоры кватэры, у куточку каля дзвярэй. Адпаліраваная да бляску булдавешка, на якую шмат гадоў апіралася правая рука гаспадара. Кульба служыла верай і праўдай спраўна не адзін год.

Раней яна сціпла ляжала на адной з паліц у аптэцы. Але надышоў час, калі кульба спатрэбілася чалавеку. У суровым сорак другім пад Сталінградам секануў асколак Нічыпара Асечку па назе. Згарача салдат нават не пачуў, як апякло ніжэй калена. Ён яшчэ трохі бег наперад. Бег і, як і тыя, што тупацелі і падалі справа і злева, нешта крычаў. І не зразумеў, чаму насустрач яму рынулася зямля, а шчака ўдарылася аб закамянелы ад марозу грунт...

Пасля Асечку перавозілі з медсанбата ў медсанбат. Хірургі нешта рабілі з нагой, часам пастуквалі металічным малаточкам па калене, перагаворваліся ціха між сабою. А Нічыпар трывожнымі вачыма стараўся прачытаць на іхніх тварах, які прысуд яму вынесуць.

— Ці буду я хадзіць, доктар? — аднойчы не вытрываў ён.

— Гэ, салдат, нават танцаваць будзеш! — усцешыў яго смяшлівы хірург-таўстун у брудным халаце.

Нічыпар, вядома, яму не паверыў. А той доктар не схлусіў: Асечка пасля хоць і не танцаваў, але спраўна ўпраўляўся дома і на сенакосе, і з коньмі, і нават на трактары нейкі час рабіў. А пасля, як перабраўся ў горад, усё часцей пачала напамінаць аб сабе нага. Можа, давалі адчуць сябе гады (Асечка даўно ўжо атрымліваў пенсію), а можа, і праўда не ўсе асколкі тады выцягнулі з яго нагі франтавыя хірургі. Таму жонка аднойчы напомніла Нічыпару:

— Схадзіў бы, стары, ды купіў сабе кій. Я як была ў аптэцы, дык такія файныя бачыла.

— Яшчэ чаго, — нахмурыўся Асечка. — Дзякаваць Богу, пакуль без кія ўпраўляюся.

Не любіў ён, шчыра кажучы, апірацца на тую кульбу — ён жа яшчэ не зломак. На сваіх вунь да рынку датупвае. Але, мусіць, за доўгія гады сумеснага жыцця жонка добра вывучыла Нічыпараву натуру. Аднойчы яна прынесла яму гэтую кульбу і няўдала пажартавала:

— Думала, думала, стары, што падарыць табе на твой дзень нараджэння. Ды нічога мая дзіравая галава не прыдумала. Вось кульбу табе прынесла.

Яна не прызналася, што ў аптэцы была ажно два разы: прадаўшчыца запатрабавала даведку. Аказваецца, не кожнаму маглі прадаць такую кульбу. Давялося насіць і паказваць Нічыпарава пасведчанне ўдзельніка вайны...

З таго часу кульба перайшла ва ўласнасць гаспадара. Асечка паступова прывык да свайго, як жартаваў, "каня". Усё ж зручней было з ёю. Калі падыходзіў тралейбус, вадзіцель адразу расчыняў пярэднія дзверы, бо бачыў чалавека з кульбай.

Ішлі гады, і кульба неўпрыкмет зрабілася быццам часткай гаспадара. Каб не слізгала па наледзі, унук набіў на канец кульбы востры металічны наканечнік. На булдавешку прымацаваў срабрыстую пласцінку з выгравіраванай манаграмай дзеда.

— Цяпер нідзе не згубіцца, — казаў ён.

Яна і сапраўды не магла згубіцца. А вось аднойчы, калі Нічыпар прыцемкам чыкільгаў з паліклінікі, лічы што і жыццё яму выратавала.

Да дома было ўжо недалёчка — толькі перайсці бліжні скверык, — як да яго наблізіліся двое дзецюкоў.

— Дзед, ці не знойдзецца на апахмелку?

Асечка ачнуўся ад уласных думак, здзіўлена паглядзеў на хлопцаў.

— Ці ты аглух? Дай на паўлітэрку, — прасіпеў адзін з іх прастуджаным голасам.

— Адчапіцеся ад мяне. З бальніцы іду. Адкуль тым грашам быць?

— А ты, дзед, яшчэ і нахабны, — цыркнуў слінай цераз зубы другі. — Глядзі, а то рэбры пералічым.

Але тут у Асечку быццам усяліўся нейкі д'ябал. Ён выставіў перад сабой, як дзіду, кульбу і рушыў проста на сіпатага. Мусіць, востры ўнукаў штыр добра-такі чыркануў па боку таго, бо ён завішчэў, як свіння, што рэжуць, і пачаў мацюкацца. А Нічыпар так і ішоў цераз увесь сквер з паднятай кульбай, балазе наперадзе віднеўся на зямлі яркі круг ліхтара ля самага дома.

Пасля таго здарэння неяк непрыкметна для блізкіх пачаў худнець, чэзнуць. Асечка ўжо рэдка калі выходзіў па вечарах з дому. І ў адну з восеньскіх раніц ціха адышоў з гэтай грэшнай зямлі.

Жонка хацела была пакласці ў труну побач з медалямі і кульбу, але ўнук заўпарціўся (пры жывым дзед па сакрэце расказаў яму, як адагнаў ад сябе рабаўнікоў), і кульба засталася ў кватэры.

Стаіць, як сірата, у калідоры.

## Куфэрак

Звычайна кожны раз перад Новым годам бабуля Стася просіць унучку Свету падцягнуць бліжэй да акна свой куфэрак. Гэты старамодны сундучок быў надзіва прыгожа размаляваны. На вечку палымнеюць (і не пабляклі ад часу, толькі дзе-нідзе адшалушылася фарба) ружы, а з бакоў чырванеюць макі і мальвы.

— Вось тут былі падснежнікі, — водзіць кастрычаватым пальцам па сценках куфэрка бабуля Стася. — Але яны, дзіцятка, ад часу пасціраліся.

Света дзівіцца добрай памяці бабулі, яе хударлявай постаці.

— Цяпер многія маладыя лечацца ад атлусцення, лішнія кілаграмы скідваюць, — гаворыць яна. — А калі на вас глядзіш, дык і не скажаш, што мінула восемдзесят пяць.

Старая Станіслава залівіста смяецца. На яе маршчыністых шчоках паяўляюцца ружовыя кружочкі. Яна задаволена трасе галавой і адмахваецца ад Светкі:

— Маўчы ўжо, страказа. Я змалку ўдалася такой кволенькай, бы тая былінка ў полі.

І "былінка" пачынае перабіраць тое, што ляжыць у куфэрку. Вось цёмнавішнёвая сукня і хустка. Іх бабуля Стася падрыхтавала ў будучую дарогу. Гэта — "смярцёльнае", як кажа яна. Аб тым, што некалі дзве дачкі з зяцямі і ўнукі праводзяць яе навечна з гэтага дому, жанчына разважае проста, як аб звычайнай з'яве. На дне куфэрка ляжыць загорнуты ў чыстую хусцінку з пасярэбраным акладам абразок. Яго падаравала некалі маладой Стасі маці. Тады гулялі аж тры дні шумнае вяселле. Стасю выдавалі за Чэся, якіх па-вулічнаму называлі Жамойдзікі, у суседнюю вёску.

Грымеў бубен, грукалі абцасы ботаў па маснічынах падлогі. А "былінка" Стася — зусім яшчэ зялёнае дзяўчо — з бояззю кідала позіркі на Чэся Жамойдзіка. Быў ён чорны, бы цыган. Валасы кучаравыя. Малады быў негаваркі і скупы на ласкі да маладой жонкі. Урэшце яны тады мала пасля вяселля і пацешыліся. Неўзабаве Жамойдзікаў раскулачылі: быў у іх вятрак, дзве каровы і пара коней. І вось у гэты самы куфэрак, размаляваны ружамі і макамі, Стася, паліваючы салёнымі жаночымі слязьмі, складвала андарак, валёнкі, упіхвала кажушок...

— А што ж было далей? — не вытрымлівае Света.

Пра бабуліну маладосць і гісторыю куфэрка яна збольшага ведае. А вось як перажыла бабуля Калыму, амаль не чула. Але тая, відаць, не вельмі хоча ўспамінаць.

— А што ж, унучка, было? — уздыхае яна. — Пахавала там Чэся. І свёкра са свякрухай. Памарозіла свае рукі...

Мусіць, усё ж наканавана было выжыць маладой прыгажуні Стасі ў тым суровым краі, дзе ў лютыя маразы замярзае ледзь не ўсё жывое. Яна прыглянулася аднаму з начальнікаў атрада, і той узяў яе да сябе ў казарму. Не пабаяўся, што яна — "падкулачніца". Перавандраваў за Стасяй і гэты куфэрак, які рыхтавалі яе бацькі для дзявочага пасагу. Намнога старэйшы за Стасю быў новы муж. Але маладую жонку не крыўдзіў. А калі шчыра прызнацца, можа, дзякуючы яму і дажыла Стася да тых дзён, калі можна было вярнуцца ў родныя месцы.

Прыехалі да бацькоў другога мужа (ён к таму часу ўжо атрымліваў неблагую пенсію). Толькі пачалі абжывацца, як пачалася вайна.

— Стася! Твайго тэрмінова ў ваенкамат выклікаюць, — падала ёй у тым страшным чэрвені павестку паштальёнка.

Яна праводзіла мужа: з куфра дастала пару чыстай бялізны, ручнік. Уторкнула ў падкладку пінжака іголку з ніткай. Хацела па прывычцы перахрысціць, але ўспомніла, як муж на Калыме крыў удоўж і ўпоперак і Богам і Хрыстом тых бедалагаў, што ледзь валачылі за тачкамі ногі, і не стала таго рабіць.

Муж пайшоў, і доўга было невядома, у якіх лясах злажыў галаву. А Стасю, як жонку былога энкэвэдэшніка, не раз цягалі ў паліцэйскую ўправу. Білі, дапытвалі. Але што магла яна ім расказаць? Як гібела на Калыме? Як кіркаю дзяўбла прамерзлы дол, каб апусціць у яго закачанелае Чэсева цела? А дзе цяперашні муж, адкуль ёй было ведаць?..

У вайну чым магла, дапамагала партызанам. Ды і ўсе ў гэтай мясцовасці па начах давалі ім то яйкі, то хлеб, то сала. Боханы свежаспечанага хлеба часцяком ляжалі пад вечкам куфра, прыкрытыя чысценькім ільняным ручніком.

Праз колькі гадоў пасля вайны ўсё ж пабывала бабуля Стася на магіле другога мужа. У Польшчы.

— Вось і картачка з тых часоў, — паказвае яна ўнучцы.

На фотаздымку — яшчэ маладжавая жанчына стаіць паміж маладых хлопцаў і дзяўчат, — харцэраў. Гэта яны адшукалі магілу камандзіра атрада. Ім аказаўся Стасін муж.

— Зямелькі ў вузельчыку завезла туды нашай, — успамінае бабуля і асцярожна пагладжвае фотакартку. — Далёка ён ад нас ляжыць. Няхай яму, саколіку, спакойна там спіцца.

Бабуля Стася акуратна закрывае вечка куфэрка. Света ведае: цяпер трэба паставіць яго ў кут, пад бажніцу. Старая не любіць, каб абы-хто зыркаў на тыя кветкі, што некалі маляваў на сундучку мастак з хутароў. Нешта сама сабе шэпча тонкімі вуснамі і ўвішна тупае да свайго ложка. Унучка чуе: бабуля пацішку моліцца. Часта глядзіць на абраз маці Боскай і жагнаецца тоненькай, як у дзіцяці, рукой.

— Охо-хо, — уздыхае яна. — Пражылі яшчэ адзін дзянёк. Дай, Божа, каб і назаўтра так жа пражыць.

## Пранік

Цяпер мала хто з маладзейшых і ведае, для чаго служыць гэты вычасаны з дубовага кавалка дрэва цяжкаваты пранік. Некалі ім васковыя жанчыны адбельвалі на жнівеньскіх росах кужэльныя сувоі палатна. Апасля ля рачулкі, на кладках, гупалі ўвесістым пранікам — "адпервалі" і палатно, і бялізну. Вядома, бялізна да таго колькі часу знаходзілася ў жлукце. Там прасеены з печы попел "выядаў" з апраткі бруд, пацёкі... Карацей кажучы, пранік мала калі ляжаў без работы. А цяпер куды яго? Хіба ў музей. Нават назву многія маладыя забыліся. "Пряник? — перапытае каторы. — А, гэта такі салодкі круглячок".

— Ды пряник гэта ж па-беларуску пернік, — пачнеш тлумачыць якому няўмеку. — А пранік — зусім іншае. Прылада такая.

Пыліўся адзін такі пранік і ў нашай вёсцы — у клеці на гарышчы ў старога Рохлі. Іван Рохля ўжо і недабачыў. Калі цягнуўся да студні па ваду, дык часцяком абмацваў перад сабою кіем дарогу. Праўда, хадзіць па тую ваду цяпер далёка Рохлі не даводзілася. Аднойчы сын Фімчык (Яўхім па-простаму) з раённага гарадка на машыне прывёз жалезабетонныя "кольцы". Следам прыпыліў аўтакран.

— Дзівіся, бацька! — крычаў, як звар'яцелы, Фімчык.

Іван Рохля блізарука ўзіраўся і разгублена пагладаў, як спрытна "вывуджвае" "кольцы" страла крана і асцярожна апускае іх каля Іванавага двара. Праз некалькі хвілін тыя жалезабетонныя "кольцы" ляжалі каля Рохлевага тыну. Пасля ўсё на нейкі час зацíхла.

— Ты б, бацька, напомніў Фімчыку, каб хоць прыбраў кругі, — нясмела сказала неяк Рохлі жонка.

Той толькі адмахнуўся: Фімчык сам ведае, што робіць. Ён быў у іх адзіным дзіцем. І нарадзіўся, калі ўжо ні Рохля, ні яго жонка не спадзяваліся, што Бог пашле нашчадка. Фімчык удаўся ні ў бацьку, ні ў маці. Рос бестурботным, вясёлым хлопцам. Не раз суседзі прыходзілі скардзіцца да Івана: Фімчык то курыцу прырэжа ды ў лозах абсмаліць, то падкіне сабаку камяк хлеба, у які насыпле наламаных іголак. Рохля адгаворваўся, часам ушчуваў Фімчыка:

— Навошта ты, сынок, жывое са свету зводзіш? Ці ж сабака вінаваты ў чым?

— Ого, яшчэ і як вінаваты! Пазаўчора, воўчая зяпа, ледзь мяне за сцягно не цапнуў.

Пасля Фімчык на некалькі гадоў знік з вёскі. Казалі — вучыцца ў прафтэхвучылішчы ды служыў недзе на падводнай лодцы. Іншыя сцвярджалі: сядзеў у турме. А як пачалі па радыё трубіць пра розных там малады бізнесменаў, аб'явіўся раптам у раённым гарадку. Нават нейкую кантору там адкрыў.

Рохля і падзівіцца не паспеў, як да тых бетонных "кольцаў", вакол якіх ужо зазелянела крапіва, нечакана зноў з'явіўся Фімчык з маладымі рабочымі.

— Будзем, бацька, капаць табе калодзеж, — распарадзіўся ён.

Рохля думаў, што студню будуць капаць, можа, тыдзень ці два. Але ўвішныя малойцы справіліся з заданнем за два дні. Праўда, калі заканчвалі вывальваць груды гліны ля дарогі, дык тут жа садзіліся кругам і асушалі раз за разам процьму бутэлек. Іван дзіву даваўся, калі падносіў да вачэй рознакаляровыя наклейкі на пустых бутэльках, якія хлопцы тут жа закідвалі ў крапіву...

...Так бы і ляжаў усімі забыты на гарышчы ў Івана Рохлі запылены пранік, калі б не здарылася бяда.

Разляцелася шумнае "застолле" пасля таго, як калодзеж быў выкапаны. Але нешта не відна было ні Івана, ні яго жонкі, каб тыя варушыліся ў двары. Цікаўныя суседзі аднойчы зазірнулі за тын, у хату. Божачка! Такога страхоцця тут не бачылі, можа, сотню гадоў. На пасцелі з праламанымі чарапамі ляжалі Іван і Рохліха. Падушкі і прасціны пачарнелі ад крыві. А на падлозе валяўся пакінуты забойцамі... пранік...

Не трэба было быць вялікім следчым, каб не зразумець, чым карыстаўся забойца, калі ўзнімаў цяжкі пранік над галовамі старых людзей. Праз нейкі час пранік той, як рэчавы доказ, быў асцярожна загорнуты ў цэлафан. А яшчэ праз колькі тыдняў ён ляжаў на стале суддзі, а паміж двух міліцыянтаў на лаве падсудных з апушчанай галавой сядзеў Фімчык.

Людзі глядзелі на гэтага, падобнага на вастрадзюбага грака, хлопца і не маглі даўмецца: адкуль у яго з'явілася такая звярыная жорсткасць і падняць руку, каб пранікам забіць бацькоў?

Людцы добрыя! Скажыце, на якой Зямлі вырас юны вылюдак? Хто ўспаіў і ўскарміў яго? Маўчыць пранік на стале ў суддзі.

## Ланцуг

Эдуард Паўлавіч пакруціў корбу. Вядро, прыкаванае ланцугом, паляцела ў цёмнае прадонне калодзежа. Зімою тут намярзала. І калі трэба было ісці па ваду, стары ўздзяваў валёнкі — падэшвы не так слізгалі па наростах бугрыстага лёду. Зверху першыя цэментаваныя "кольцы" пакрываліся інеем. І хоць над калодзежам некалі зрабілі наддашак (на сродкі, што выдзеліў на ліквідацыю чарнобыльскай бяды), усё роўна зверху патыхала холадам. І ўсё ж яшчэ задоўга да замаразкаў з глыбіні калодзежа вядро часам вычэрпвала... камароў.

(Працяг на стар. 12)

## Здзіўляючы знаўцаў...



**У народзе бытуе такая прымаўка: "Скажы мне, хто твой сябар, я скажу, хто ты". Але гэтую прымаўку можна перайначыць, калі размова ідзе пра вучняў ды іхніх настаўнікаў: "Скажы мне, хто твой настаўнік, я скажу, які ты вучань".**

**Не вельмі даўно ў Камернай зале сталічнай філармоніі адбыўся канцэрт, прысвечаны юбілею выдатнага педагога, прафесара Беларускай акадэміі музыкі Зоі Качарскай. З разнастайнымі творамі выступалі ейныя вучні.**

**Многа было апладысментаў, многа было кветак. І вось у самым канцы вечара на сцэну выйшла сціплая сімпатычная дзяўчына — студэнтка IV курса БАМ Кацярына Глазоўская. Здавалася, чым можна здзівіць публіку? Тым больш, калі ў зале — знаўцы музыкі: навучэнцы музычнага вучылішча, студэнты акадэміі, вучні музычных школ, педагогі, чыя ўвага да таго ж магла быць пры канцы вечара ўжо і аслаблена. Ды толькі Кацярына і яе педагог пра гэта і не думалі.**

**З-пад тонкіх рук дзяўчыны выляталі такія дзівосныя — то бравурныя, то сумныя, журботныя, то таямнічыя гукі! Дзяўчына быццам сама злілася з героем балета І. Стравінскага "Пятрушка". Здавалася, што сам Пятрушка прысутнічае на сцэне. Між іншым, трэба адзначыць, што выкананне такога твора вымагае мужчынскай хваткі. І публіка была нямала здзіўленая, з якой лёгкасцю піяністка пераадольвала тэхнічныя бар'еры выканання. Здавалася, яны для яе не існавалі. Важна было дасканала перадаць змест твора, адлюстраваць яго музычны вобраз і дух, зменлівы настрой шматаблічнага галоўнага героя.**

**Мяне вельмі зацікавіла маладая таленавітая піяністка, захацелася больш блізка пазнаёміцца з яе творчасцю. Аказалася, у рэпертуары Каці Глазоўскай такія шэдэўры сусветнай фартэпіяннай літаратуры, як "Сімфанічныя эцюды" Шумана, санаты Моцарта, Бетховена, Шапэна, Пракоф'ева, мініяцюры Рахманінава, Ліста, Скрабіна, Дэбюсі, Шапэна. Усё гэта сведчыць пра мастацкую і прафесійную сталасць музыканта. І таму не дзіўна, што маладая піяністка актыўна ўдзельнічае ў канцэртах як салістка камернага ансамбля, аркестраў. А ў сакавіку 1997 года яна стала лаўрэаткай Еўрапейскага конкурсу піяністаў Клода Кана ў Парыжы.**

**Летам таго самага года Кацярына прайшла і адбор на майстаркурсы выдатнага піяніста Лазара Бермана ў Любеку (Германія), якія скончыла з поспехам.**

**Сёлета К. Глазоўская заканчвае IV курс Беларускай акадэміі музыкі, дзе за выдатныя поспехі ў вучобе адзначана стыпендыяй імя Уладзіміра Алоўнікава.**

**Пажадаем жа ёй творчых поспехаў у дасягненні высокага майстэрства, здзяйснення жаданняў, а ейнаму педагогу, прафесару Зоі Качарскай — новых таленавітых вучняў.**

**Міхась ДРЫНЕЎСКІ,**
**народны артыст Рэспублікі Беларусь, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ, прафесар.**

МУЗЫКА

# Сезон закончыцца операй "Барыс Гадуноў"

## ПАКУЛЬ — У КАНЦЭРТНЫМ ВАРЫЯНЦЕ

НАЦЫЯНАЛЬНАЯ опера вось-вось развітаецца са сваімі гледачамі аж но да 3 верасня. Якім быў яе 65-ы сезон? Здараліся радасці і засмучэнні, хапіла неспадзяванак і хваляванняў (як "з плюсам", так і "з мінусам"). І часам тое, што, нібыта мусіла стацца падзеяй (напрыклад, гала-канцэрт "Віват опера!") праходзіла так сабе, а даўно пастаўлены спектакль са звыклым выканаўчым складам пераварочваў душу.

Аднак ёсць адна акалічнасць, якая афарбоўвае ўвесь сезон у святочныя тоны: мінская публіка павярнулася тварам да Беларускай оперы, аншлаг зрабіўся нормай яе жыцця (будзем спадзявацца, што летні спад глядацкай цікавасці мае зусім зразумелыя прычыны, і наступны сезон будзе па запаўняльнасці залы не горшы за адыходзячы)! Таму і ўспамінаецца зараз самае прыемнае: захапленне маленькіх гледачоў на кожным паказе "Чароўнай музыкі" М. Мінкова (спектакль нарадзіўся пад самы Новы год); велізарны поспех канцэрта опернага хору; мноства ўдалых уводаў (прыгадаем Тамару Глаголеву — Іяланту, Алега Гардынца — Дубатоўка і Караля Рэнэ, Васіля Кавальчука — Фігара, а Мікалая Майсеенку — Графа ў "Вяселлі Фігара", Тацццяну Цівунову — Тоску, Уладзіміра Пятрова — Жэрмона, Паўліну Елісееву — Марфу, Алену Бундзелеву і Таццяну Траццяк — у ролі Віялеты, Рыгора Палішчука — Альфрэда, Аляксандра Тузлукова — Вадэмона, з дырыжорскіх дэбютаў — "Аіду" Міхаіла Сінькевіча"); бенефісы нашых майстроў, і найперш — Эдуарда Пелагейчанкі; удзел нашых салістаў у ажыццяўленні цудоўнага расійска-беларускага праекта — канцэртнага выканання "Князя Ігара" ў Яраслаўлі падчас Дзён славянскага пісьменства і культуры; цікавыя спектаклі з гастралёрамі ("Тоска" і "Чыо-Чыо-сан" са швейцарскім дырыжорам Урсам Шнайдэрам, "Аіда" з Людмілай Магамедавай і Уладзіславам П'яўко, "Тоска", "Баль-маскарад" з Ірынай Гардзей); гастролі ў Брэсце...

Добра і тое, што тэатр не забываўся на юбілейныя даты тых, хто даўно не працуе ці ўвогуле пакінуў гэты свет. Хапіла індывідуальных перамог — Аркадзь Саўчанка стаў кавалерам "Крыштлёвай Паўлінкі", а Наталля Кастэнка — "чалавекам года", Марат Грыгорчык дэбютаваў у Вялікім тэатры Расіі, Уладзімір Пятроў упершыню ўдзельнічаў у пастаноўцы оперы за мяжой, Сяргей Драбышэўскі стаў лаўрэатам міжнароднага конкурсу імя М. А. Рымскага-Корсакава, маэстра Аляксандр Анісімаў атрымаў медаль Ф. Скарыны... І гэта, зразумела, далёка не ўсе дасягненні опернай трупы.

Увогуле багатаму сезону бракавала, бадай, толькі прэм'еры "поўнаметражнага" опернага спектакля. І вось 5—6 ліпеня, "пад заслону" Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы паказвае доўгачаканага "Барыса Гадунова" М. Мусаргскага. Геніяльная опера 15 гадоў не гучала ў Мінску, і таму нават канцэртнае яе выкананне, — безумоўна, вялікая мастацкая падзея.

Напярэдадні прэм'еры я ўзяла інтэрв'ю ў галоўнага дырыжора тэатра, музычнага кіраўніка пастаноўкі Аляксандра Анісімава.

**— Мы планавалі ўжо ў гэтым сезоне выпусціць сапраўдны, жывы спектакль "Барыс Гадуноў" з удзелам цудоўнага рэжысёра Мікалая Пінігіна і мастака Зіновія Марголіна — не атрымалася з-за эканамічных прычын. Мусім адкладваць сустрэчу публікі з новым пастановачным вырашэннем да канца года. Аднак усё, што датычыць, калі можна так выказацца, музычнай часткі, гатова, і таму не цярпіцца "абнародаваць" вынік шматмесячнай працы. Да таго ж, мы маем заказ на ўдзел у міжнародным фестывалі ў швейцарскім горадзе Салатурне, які адкрыем 10 ліпеня "Барысам Гадуновым" якраз у такой форме — канцэртнай. У аналагічным выглядзе наш тэатр пакажа там і такія, быццам бы зусім не канцэртнага стылю, оперы, як "Чыо-Чыо-сан", "Аіда", "Травіята", "Князь Ігар". Яшчэ будзе канцэрт, дзе прагучаць "Карміна Бурана" і "Шахеразада", і фартэпіянны вечар майго сына — Аляксандра Анісімава-малодшага. Справа не толькі ў асаблівасцях сцэны і залы ў Салатурне — проста фестываль мае такое творчае аблічча. Між іншым, канцэртная форма выканання опер вельмі папулярная на Захадзе, часам даходзіць не тое, каб да абсурдных, але ж да вельмі цікавых рэчаў. Напрыклад, зусім нядаўна ў адным італьянскім тэатры на афішы аднаго тыдня значылася "Травіята" і ў сцэнічным і ў канцэртным выглядзе!**

— Але ж вернемся да "Барыса". Калі гавораць пра оперы Мусаргскага, непазбежна ўзнікае пытанне пра выбар рэдакцыі. У нашым тэатры "Барыс Гадуноў" упершыню быў пастаўлены ў аркестравай рэдакцыі Рымскага-Корсакава, а праз 20 гадоў, у 1974 годзе, Яраслаў Вашчак, Сямён Штэйн і Яўген Чамадураў увасобілі оперу ў аркестроўцы Шастаковіча. Тое, над чым трупа працуе зараз, — гэта тая самая другая, поўная, т. зв. асноўная, аўтарская рэдакцыя, у якой "Барыс" быў упершыню прадстаўлены ў 1874 годзе на сцэне Марыінскага тэатра пад кіраўніцтвам славутага Напраўніка?

**— У прынцыпе, гэта тая асноўная рэдакцыя, хаця Напраўнік усё-такі зрабіў нейкія скарачэнні, а сёе-тое, наадварот, узяў з першай рэдакцыі (яе прынята называць папярэдняй). Асноўная паўнейшая за папярэднюю ажно на тры карціны — у яе Мусаргскі ўключыў польскі акт (2 карціны) і славутую "Сцэну пад Кромамі". Цяпер гэтая рэдакцыя зрабілася нібы кананічнай — з лёгкай рукі Андрэя Тарkоўскага і дырыжора, з якім ён ставіў "Барыса" на сцэне "Ковент-Гардэн", — Клаўдзіо Абада. Калі рэжысёра ўжо не было ў жывых, спектакль перанеслі на сцэну Марыінкі ягоныя асістэнты (музычны кіраўнік Валерый Гергіеў), а потым і ў тэатр "Ла Феніча" ў Венецыі, дзе ўжо мне выпаў гонар быць музычным кіраўніком пастаноўкі. Я проста "захварэў" гэтым варыянтам оперы, і гэта таксама паўплывала на выбар рэдакцыі для нашага тэатра.**

— У адным з інтэрв'ю Валерыя Гергіева часопісу "Советская музыка" я знайшла прыкладна такое выказванне: "Працуем паводле партытуры, дасланай нам Лойд-Джонсам, або паводле партытуры, якую пазычаў у нас Лойд-Джонс". Што тут першаснае, што другаснае, якая ўвогуле роля гэтага англічаніна?

**— Партытура Лойд-Джонса амаль не адрозніваецца ад партытуры "Барыса" ў асноўнай аўтарскай рэдакцыі, падрыхтаванай да друку Паўлам Ламам.**

**Аднак паводле дзеючага заканадаўства Захад не меў права бясплатна, без дазволу, карыстацца партытурай Мусаргскага ў рэдакцыі Лама. Таму гэты англійскі музыкант, дырыжор, вучоны вырашаў і чыста практычную задачу — мецъ на Захадзе партытуру Мусаргскага, якую можна было б даваць у пракат. Зразумела, ён працаваў з аўтографамі Мусаргскага, з арыгінальнай партытурай, якая з'яўляецца ўласнасцю Расіі. Ён працаваў вельмі скрупулёзна, каб высветліць намеры кампазітара, месцамі нават аднаўляў аўтарскі тэкст, які быў зменены Паўлам Ламам, часам і без каментарыяў... Аднак наша размова робіцца занадта спецыяльнай. Хачу толькі дадаць, што я не прыхільнік літаральнага прытрымлівання адной абранай рэдакцыі, і не баюся папрокаў у "нестэрыльнасці". Па сутнасці, кожны тэатр робіць свой уласны варыянт твора. І як можна гаварыць пра мінскую "Лэдзі Макбет Мцэнскага павета", так можна будзе казаць і пра нашага "Барыса". Я, дарэчы, лічу неабходным узяць фрагмент з рэдакцыі Рымскага-Корсакава — ягоны фінал польскага акта падыходзіць нам больш, чым у рэдакцыі Лойд-Джонса. Польская лінія ўсіх нас — Пінігіна, Марголіна і мяне — вельмі цікавіць.**

— Аляксандр Міхайлавіч, у чым вы бачыце галоўную складанасць для выканаўцаў — салістаў, хору, — калі яны падыходзяць да Мусаргскага?

**— Ведаеце, на Захадзе існуюць спецыяльныя інстытуты Вагнера (Байройт), Моцарта (Зальцбург), Малера (Konzertgebau у Амстэрдаме), Баха (Мюнхен, Лейпцыг), якія вывучаюць стыль аднаго кампазітара, захоўваюць традыцыі выканання, наладжваюць майстаркласы. У Расіі, напрыклад, нічога падобнага, на жаль, няма. А можа, не на жаль. Мусаргскі ж не вельмі шанаваў мудрацоў і схаластаў. Галоўным крытэрыем павінны быць талент, інтуіцыя ("чуццё") і веданне стылю Мусаргскага. Сярод нашых салістаў ёсць тонкія, удумлівыя музыканты, якім пад сілу пераадолець усе цяжкасці і выканаць оперу на самым высокім узроўні. Спадзяюся, наша канцэртная прэм'ера пакажа, што цяперашняе пакаленне спевакоў здолее далей несці тую традыцыю, якая ішла ад Льва Любімава, Яраслава Вашчака і тых таленавітых спевакоў-артыстаў, з кім яны працавалі. Некаторыя,**



**дзякуй Богу, яшчэ жывыя, здаровыя і ўдзельнічаюць у новай пастаноўцы "Барыса" — гэта Міхаіл Дружына, Віктар Чарнабаеў, Яраслаў Пятроў, Аркадзь Саўчанка, Віктар Смыкалаў, Генадзь Чэпікаў. З'явіліся і новыя цікавыя спевакі. Найперш хачу адзначыць удумлівую, прыжую, інтэлігентную інтэрпрэтацыю Алегам Мельнікавым партыі Барыса і не менш выдатную — Пімена. Маладыя тэнары Сяргей Драбышэўскі, Марат Грыгорчык, Сяргей Франкоўскі абяцаюць ярка ўвасобіць вобразы Самазванца і Юродзівага, Уладзімір Пятроў цікава працуе над партыяй Рангоні. Вельмі каларытныя вобразы ствараць, я думаю, Васіль Кавальчук і Алег Гардынец. У нас вельмі добрыя Марыны: Наталля Руднева, Нагіма Галеева, Таццяна Варапай. Гэта "густанаселеная" опера пад сілу толькі такім салідным тэатрам, як наш, і пасля "Лэдзі Макбет Мцэнскага павета" гэта самая сур'ёзная работа трупы (быў яшчэ "Князь Ігар", аднак ён амаль усе гады захоўваўся ў рэпертуары, а вось "Барыс Гадуноў" — назва новая для большасці ўдзельнікаў).**

**Вельмі важна, што над "Барысам" побач са мной працаваў таленавіты музыкант Вячаслаў Чарнуха. Нашы яркія маладыя дырыжоры, — ён, і Андрэй Галанаў, і Міхаіл Сінькевіч, — ва ўсіх пастаноўках апошніх гадоў выконвалі працу, роўную па аб'ёме маёй, а то і большую, і неўзабаве пасля прэм'еры самі абавязкова станавіліся за пульт. Вялікая ўдача, што ў нас ёсць ажно тры такія цікавыя творчыя асобы. Тэатру оперы вельмі пашчасціла, што хор узначальвае такі яркі, цікавы, энергічны музыкант, як Ніна Ламановіч.**

**Абавязкова прыходзьце 5 і 6 ліпеня — мы пакажам два склады выканаўцаў (у цэнтральнай партыі, акрамя Мельнікава, будзе любімы мінскай публікай Яраслаў Пятроў). Вас чакаюць узрушэнне і асалода. Я глыбока перакананы, што геніяльны твор, нават і трагічны па змесце, не падаўляе, а ўзвышае — хаця б таму, што прымушае адчуць, што можа чалавек!**

**Гутарыла Алена САЛАМАХА**

# Зноў — поле барацьбы?

## СУЧАСНЫ СТАН БЕЛАРУСКАЙ ГІСТАРЫЧНАЙ НАВУКІ

ВЕДЫ Ў МАСАВЫМ ужытку, масавая гістарычная свядомасць складваецца ў асноўным з ведаў, пачэрпнутых са школьных падручнікаў, навукова-папулярнай, гісторыка-мастацкай, публіцыстычнай літаратуры. Узровень гэтых ведаў, іхняя адпаведнасць навуковаму разуменню мінулага ў значнай ступені залежыць ад узроўню агульнай культуры чалавека, ягонага інтэлектуальнага патэнцыялу. Але бяда ў тым, што жанры змешваюцца і высновы мастацкай творчасці і публіцыстыкі выдаюцца аўтарамі (і ўспрымаюцца чытачамі) як навуковыя ісціны. З другога боку, заўсёды знаходзяцца слабыя навукоўцы, ці проста "прыдворныя" гісторыкі, якія ў сваіх працах наўмысна скажаюць мінулае, задавальняючы патрабаванні рэжыму для выкарыстання ўладаю гісторыі ў канкрэтных палітычных інтарэсах.

У пераломныя моманты ў жыцці народа: у час войнаў і рэвалюцый, эканамічных катаклізмаў, пры нестабільнасці ў грамадстве заўсёды нараджаецца павышаны інтарэс да гісторыі, што і назіраецца сёння на Беларусі. У гісторыю рынуўся натоўп рознага ўзроўню кваліфікацыі і маральных якасцяў гісторыкаў, літаратараў, публіцыстаў, шматлікіх аматараў, а натоўп, як заўсёды, больш топча, чым знаходзіць.

Раз-пораз у друку выказваюцца думкі, што гісторыю нельга перапісваць пры змене прыярытэтаў, ідэалогіі, кіраўніцтва і г.д. Гісторыя заўсёды знаходзілася пад пэўным уплывам ідэалогіі, асабліва савецкая гістарычная навука. "Перапісванне" гісторыі новым пакаленнем не з'яўляецца вынікам суб'ектыўнасці. Гісторыя гістарычнай навукі, грунтуючыся на прынцыпе гістарызму, у стане раскрыць вытокі сучасных канцэпцый, пераканаць некаторых артадоксаў, што гісторыю трэба пераглядаць ("перапісваць"), але не з ідэалагічных і палітычных меркаванняў, а дзеля таго, каб ачысціць яе ад фальсіфікацый, каб спазнаць ісціну.

Коратка нагадаю, як перапісвалася гісторыя Беларусі. Беларуская гістарыяграфія 20-х гг., яе новыя канцэпцыі шмат у чым паўтаралі і на новым узроўні развівалі некаторыя палажэнні, распрацаваныя яшчэ ў XIXст. Адамам Кіркорам, у пачатку XX ст. "нашаніўцамі" і іхнімі паслядоўнікамі. Гэтыя канцэпцыі панавалі да канца 20-х — пачатку 30-х гг. У 20-я гг. у гістарычную навуку прыйшлі новыя людзі, "марксісцкія парасткі", як іх з любасцю называў гісторык-марксіст М. Пакроўскі. Яны пачалі вывучаць у асноўным пытанні грамадскіх рухаў, рэвалюцый, пакінуўшы гісторыю сярэднявечча калегам больш сталага ўзросту. З канца 20-х гг. пачалася барацьба "марксісцкіх парасткаў" супраць "нацдэмаўскай" гістарыяграфіі. У 1934 г. акадэмік В. Шчарбакоў, падводзячы вынікі разгрому "нацдэмаўшчыны", у яўна заказной рабоце "Класавая барацьба і гістарычная навука на Беларусі" пісаў, напрыклад, што нацдэмы так нізка палі, што нават ідэолага польскай і беларускай шляхты Кастуся Каліноўскага лічылі рэвалюцыянерам-дэмакратам. З другога боку, згаданы аўтар, успрыняўшы канцэпцыю "нацдэмаў", пісаў, што ў XVIII ст. Расія захапіла Беларусь і пераўтварыла яе ў сваю калонію.

У другой палове 30-х гг. пагромшчыкі "нацдэмаў" самі папалі пад нож сталінскай мясарубкі. Ад гісторыкаў зноў патрабавалі перагледзець канцэпцыі ўжо "ворагаў народа". Зноў пачалі шманаць ("перапісваць") беларускую гісторыю. Нешматлікія, хто пазбег рэпрэсій, запалоханыя гісторыкі прыстасоўваліся да абставінаў. Яны зразумелі, якая гісторыя патрэбна маскоўскім уладарам і іхнім тутэйшым падпявалам. Канцэпцыя гісторыі Беларусі пераўтварылася ў рускую вялікадзяржаўную, толькі ўжо ў марксісцкай абалонцы. Тут ужо няма захопу Беларусі і ператварэння яе ў калонію Расіі, а ёсць "воссоединение" Беларусі з Расіяй, аб якім стагоддзямі быццам бы марыў беларускі народ. Уніяцкая царква, якая прадухіліла паланізацыю беларусаў, як лічылі "нацдэмы", стала ўжо ворагам беларусаў, бо яна, разам з каталіцкай, праводзіла палітыку акаталічвання і апалячвання беларусаў і г.д., і г.д. Усе гэтыя канцэпцыі перавандравалі ў беларускую пасляваенную гістарыяграфію ў больш выяўленым рускім вялікадзяржаўным выглядзе.

Пасля абвяшчэння дзяржаўнай незалежнасці Беларусі нашы гісторыкі перагледзелі спадчыну савецкай гістарычнай навукі: рускую вялікадзяржаўную гістарыяграфію. Але адроджаная беларуская гісторыя не задавальняе сучаснае кіраўніцтва краіны. Падручнікі і дапаможнікі, выдадзеныя пасля 1992г., кінуты пад нож. У хуткім парадку пішуцца новыя падручнікі "па матывах і трафарэтах" прэзідэнцкай каманды.

Падручнікі заўсёды былі ідэалагізаванымі і палітызаванымі. Апошні тэрмін я ўжываю не ў першапачатковым яго разуменні як мастацтва кіравання дзяржавай, а ў марксісцка-ленінскай інтэпрэтацыі: барацьба за захоп, утрыманне і выкарыстанне ўлады. Улада заўсёды ўважліва сачыла за падрыхтоўкай падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў па гісторыі для сярэдняй і вышэйшай школы. У свой час А. Герцэн, абгрунтоўваючы прычыны таго, чаму шмат разоў перавыдаваліся падручнікі па рускай гісторыі М. Устралава (1805—1870), пісаў, што яны напісаны "па матывах Мікалая Паўлавіча (цара Мікалая I) і па трафарэтах міністра Уварава", які, як вядома, сфармуляваў і абгрунтаваў дзяржаўную ідэалогію і палітыку Расійскай імперыі трыядай: самадзяржаўе, праваслаўе і народнасць, названай А. Пыпіным тэрмінам "тэорыя афіцыйнай народнасці". Але, акрамя афцыйнай, "падручнікавай", гістарыяграфіі, былі і творы вядомых гісторыкаў-прафесіяналаў, канцэпцыі якіх не заўсёды супадалі, а раз-пораз не проста супярэчылі афіцыйнай гістарыяграфіі, але і былі супрацьлеглымі. Гэтыя погляды з цягам часу забываліся і засталіся здабыткам гісторыі гістарычнай навукі і вядомы толькі вузкаму колу гістарыёграфаў. Скажэнне сучаснымі гісторыкамі (сумленнымі, а не афіцыйнымі) мінулага ў значнай ступені залежыць ад дрэннага ведання гісторыі сваёй навукі, успрыманне імі некаторых традыцыйных канцэпцый на веру без звароту да крыніц (у навуцы часта традыцыя аказваецца мацней за ўсялякія довады), а таксама слабае веданне апошніх дасягненняў сучаснай неафіцыйнай навукі.

Важным пытаннем з'яўляецца пытанне аб месцы і ролі гісторыкаў у грамадстве, аб свабодзе гістарычнай творчасці і ўзаемаадносінах паміж інтэлігенцыяй, грамадствам і ўладай. Гістарычная навука па сваёй сутнасці заўсёды была асабліва ўразлівая да сацыяльных працэсаў, звязана з палітыкай і грамадствам. Гэта абумоўлена тым, што асобныя лідэры і ўрадавыя структуры заўсёды намагаліся выкарыстоўваць гісторыю для канкрэтных палітычных мэт і ў сваіх інтарэсах. Сярод гісторыкаў заўсёды знаходзіліся ахвотнікі служыць уладзе, а не навуцы, яны станавіліся "прыдворнымі гістарыёграфамі". Іхнія абавязкі зводзіліся да вышуквання з крыніц фактаў і прыкладаў (хай сабе і сфальсіфікаваных) дзеля апраўдання і падмацавання "доказамі" дзеянняў, якія прадпрымалі манархі і правіцелі. Іншыя гісторыкі, не жадаючы служыць уладзе адкрыта, намагаліся адчуць настрой уладных структур і раздвойваліся, прыстасоўваліся да афіцыйнай лініі, і пісалі так, як дазваляў час, спакваля праводзячы свае погляды, каб іх чыталі "паміж радкоў". У выніку гэтых з'яў і ўзнік тэрмін "афіцыйная гістарыяграфія", г.зн. гістарыяграфія, якая кіруецца зверху і служыць уладзе.

Пасля кастрычніка 1917 г. сканаў працэс натуральнага развіцця гістарычнай навукі ў Расійскай імперыі. Распаўсюджваўся па ўказцы зверху ідэйны канфармізм, які грунтаваўся на прынцыпах дагматычнага марксізму. Гістарычная навука развівалася не як сфера даследніцкага дыялога, а як поле ідэалагічнай барацьбы.

Тэрмін "ідэалогія" ўзнікае ў французскай асветніцкай літаратуры канца XVIII ст. і азначае ў шырокім сэнсе вучэнне аб ідэях. Ідэалогія — гэта "калектыўнае бессвядомае" (К. Маркс), з дапамогай якога пэўная група ўтойвае рэальны стан спраў і палітычныя мэты ад сваіх суайчыннікаў. Адсюль і супрацьлегласць паміж ідэалагічнымі і пазнавальнымі функцыямі навукі, паміж камуністычнай партыйнасцю, якую М. Бярдзяеў называў "навейшай духоўнай інквізіцыяй", і аб'ектыўнасцю ў навуцы. Неапазітывісты яшчэ на рубяжы XIX і XX стст. прама пісалі, што "там, дзе пачынаецца ідэалогія, там канчаецца навука". Ідэалогія, як сістэма поглядаў, якія ў яе закладзены, шматгранная і можа адыгрываць як станоўчую, так і адмоўную ролю ў жыцці грамадства. Усё залежыць ад таго, хто распрацоўвае ідэалогію і з якімі мэтамі: ці ў інтарэсах усяго грамадства (напрыклад, "беларуская ідэя"), ці ў інтарэсах пэўнай групоўкі. У другім выпадку ідэалогія ператвараецца ў звычайную дэмагогію і танны папулізм, калі пад сцягам альтруізму быццам бы ўсё робіцца ў інтарэсах народа і ад ягонага імя. Ідэалогія становіцца сродкам існавання касты прадракальнікаў і ў іхнім асяроддзі на пярэдні план вылучаюцца хітраватыя шарлатаны, якія, каб кіраваць людзьмі, замбіраваць іх, проста штодня хлусяць, кіруючыся "правілам", што большасць людзей — безнадзейныя дурні.

Беларуская гістарычная навука толькі-толькі пачала падымацца з каленяў, як яе зноў прымушаюць схіліць галаву. Сучаснае становішча беларускай гістарычнай навукі, наступ на яе і ідэалагічны ўціск на навуку з боку пэўных сіл вымушае выступіць у яе абарону: звярнуцца да яе гісторыі і апошніх дасягненняў, каб людзі ведалі ісцінны стан рэчаў.

У першай палове XIX ст. у Расіі былі ўжо прафесійныя гісторыкі з вышэйшай спецыяльнай адукацыяй. Яны адышлі ад аматарства, грунтоўна і крытычна ацэньвалі крыніцы, важка знаёміліся з дасягненнямі сусветнай навукі, шмат чаго з яе перанялі. Складваецца так званая "скептычная" (крытычная) школа ў гістарыяграфіі, аб'яднаўшая шэраг гісторыкаў-прафесіяналаў, духоўным лідэрам якой быў прафесар Маскоўскага універсітэта М. Качаноўскі (1775—1842). "Скептыкі" вельмі крытычна адносіліся да паведамленняў летапісаў, распрацавалі методыку работы з крыніцамі, паклалі пачатак выдзяленню з гістарычнай навукі асобнай дысцыпліны — крыніцазнаўства.

Рускі гісторык С. Салаўёў (1820—1879) вельмі крытычна адносіўся да летапісаў, лічыў, што яны, як гістарычныя крыніцы, у значнай ступені сфальсіфікаваны пры чарговай перапісцы і рэдагаванні. Вывучаючы летапісы, ён звяртаў увагу на адзін са спіскаў. Гэта быў чарнавік, які адрэдагаваў Макарый, Маскоўскі мітрапаліт з 1542 па 1568 год. Рэдактар зазначаў перапісчыку, **што** неабходна выкрасліць з тэксту, **што** і **як** дабавіць, **дзе** змяніць сэнс, палітычны накірунак. У сярэдзіне XIX ст. С. Салаўёў напісаў шэраг работ, у якіх даў крытычны агляд твораў гісторыкаў XVIII ст., пачынаючы з В. Тацішчава (1686—1750), і першай паловы XIX ст.: М. Карамзіна (1766—1826), М. Качаноўскага (1775—1842), М. Пагодзіна (1800—1875), чым паклаў пачатак асобнай гістарычнай дысцыпліны — гістарыяграфіі (гісторыі гістарычнай навукі). С. Салаўёў вельмі крытычна ацэньваў летапісы і практычна выкрасліў летапісны перыяд гістарыяграфіі са сферы навукі, хоць сам шырока выкарыстоўваў летапісы, і звязваў унізкненне гістарычнай навукі з імем В. Тацішчава. Толькі па традыцыі, без усялякага навуковага абгрунтавання, амаль што ўсе гісторыкі нават і ў нашы дні падтрымліваюць пункт погляду С. Салаўёва на час узнікнення ў Расійскай імперыі гістарычнай навукі.

Як вядома, В. Тацішчаў выкарыстоўваў некалькі спіскаў Аповесці мінулых гадоў (далей — АМГ). Ён звярнуў увагу на тое, што адны і тыя ж падзеі ў розных спісках выкладаюцца па-рознаму, калі-нікалі нават супрацьлегла. Але В. Тацішчаў не заўсёды намагаўся знайсці ісціну, ён толькі з прагматычных меркаванняў вышукваў тое, што адпавядала ягоным імперскім поглядам. Цікавыя назіранні зрабіў С. Салаўёў наконт прац гісторыкаў XVIII ст. Ён пісаў, што Г. Мілер (1705—1783) у сваіх працах, абапіраючыся на дадзеныя АМГ, "робіць высновы, якія перайшлі з XVIII ст. у XIX-е. Наступныя расійскія гісторыкі ў сваіх працах доўжылі апісаныя Нестарам падзеі ў большасці сваёй ягонымі, Нестара, словамі. Прынамсі, яны не рашыліся зрабіць якія-небудзь значныя змены, бо вельмі былі ўпэўнены ў верагоднасці аб'яўленых Нестарам прыгод".

Значны ўплыў на развіццё гістарычнай навукі ў XIX ст. аказала філасофія пазітывізму. Гэтая філасофія не знайшла шырокай падтрымкі сярод філосафаў Расіі, але знайшла шмат прыхільнікаў сярод гісторыкаў, якіх прываблівалі патрабаванні аб'ектыўнага падыходу да з'яў (Б. Парамонаў).

Працы "скептыкаў", С. Салаўёва і шэрагу іншых навукоўцаў, у якіх абгрунтавана ставіліся пад сумненне шмат якія звесткі летапісаў, падрывалі спалітызаваныя афіцыйныя вялікадзяржаўныя канцэпцыі гісторыі Расійскай імперыі: калі крыніцы сфальсіфікаваны, дык і высновы, якія грунтаваліся на гэтых крыніцах, таксама няправільныя. Гэта ўжо пачало турбаваць урадавыя колы, бо такія высновы падсякалі карані дзяржаўнай імперскай тэорыі "афіцыйнай народнасці". Урад пачаў рашуча ўмешвацца ў справы гістарычнай навукі. Восенню 1849 г. Мікалай I зацвердзіў "Інструкцыю рэктарам універсітэтаў і дэканам факультэтаў" і ўхваліў сакрэтнае "Настаўленне рэктарам і дэканам". У "Настаўленні", як прыгадваў акадэмік Ф. Буслаеў (1818—1897), "строга забаранялася крытыкаваць ці сумнявацца ў тым, што паведамляў Нестар у сваім летапісе, таму што царквой ён прылічаны да ліку прэпадобных і як святы памыляцца не мог".

З аднаго боку, крытыка летапісаў усё ж доўжылася, з другога, як пісаў В. Ключэўскі, — погляд аўтара АМГ "перажыў летапісанне і доўга кіраваў мысленнем гісторыкаў: яны доўга працягвалі глядзець на з'явы чалавечага жыцця вачыма летапісца, нават тады, калі адракліся ад летапісных прыёмаў іхняй апрацоўкі і выкладання".

У той жа час, трэба памятаць, што летапісы — гэта гістарычныя крыніцы, у якіх разам з наўмыснымі і несвядомымі скажэннямі заўсёды прысутнічаюць ісцінныя веды. Апавядальны жанр у гістарычнай навуцы, узнікшы пад уплывам пазітывісцкай філасофіі з яе патрабаваннем аб'ектыўнасці, характэрны для гістарыяграфіі XIX ст., вельмі часта маскіраваў вынікі складанай аналітычнай работы даследчыкаў.

Пытанне аб часе ператварэння "гістарычных ведаў" у гістарычную навуку інакш чым С. Салаўёў вырашаў М. Бярдзяеў. У 1920 г. ён выказаў думку, што толькі ў XIX ст. гісторыя ператвараецца ў сапраўдную навуку, калі пачынаецца "гістарычная крытыка" ("пошук звестак аб падзеях, ачыстка іх ад прыхарошванняў і скажэнняў" (У. Даль.) Работы М. Бярдзяева, высланага з Расіі ў 1922 г., апынуліся ў "спецхране" і мала каму былі вядомы). У нашыя дні гэтую думку М. Бярдзяева падтрымаў і развіў акадэмік РАН В. Янін. Разглядаючы сучасны стан гістарычнай навукі, В. Янін пісаў у 1990 г.: "Галоўная крыніца, якой мы карыстаемся — летапіс, — па сутнасці дакументам не з'яўляецца. Гэта літаратурны твор, які адлюстроўвае погляды ягонага аўтара на тыя ці іншыя падзеі". Гэтую думку В. Янін паўтарыў і пашырыў у 1993 г.: "Асноўная крыніца ведаў аб пачатковых стагоддзях рускай гісторыі — Аповесць мінулых гадоў — з'яўляецца ў роўнай ступені прадуктам і гістарыяграфіі і літаратуры. Яна не прама адлюстроўвае сучасную яе апавяданням рэчаіснасць, а цераз прызму мастацкага асэнсавання, не адрозніваючы верагоднае ад легендарнага... Толькі ў першай палове XIX ст. гісторыя Расіі пачала свой шлях аддзялення ад літаратуры, ператварэння ў галіну ведаў, г.зн. самаачышчэння ад легенд, міфаў, павярхоўных абагульненняў, крытычнай ацэнкі крыніц, перакрыжаванай праверкі іх паказанняў. Галоўнай небяспекай з'яўляецца тое, што шмат якія ўяўленні і ацэнкі (якія часам існуюць і сёння) склаліся яшчэ ў той час, калі гісторыя не сталася навукай, а крыніца гэтых ацэнак не была вывучана гістарычнай крытыкай. Шматразова паўтораныя ў розных працах такія ацэнкі здаюцца кімсьці і калісьці абгрунтаванымі і не падлягаюць сумненню, тады як вывучэнне літаратуры пытання паказвае, што ў рэчаіснасці доказаў ніколі не існавала". І далей: "Трэба мець на ўвазе, што зыходны пункт такіх уяўленняў, узнікшы ў "данавуковы" перыяд айчыннай гісторыі, да нашага часу застаецца шырока распаўсюджаным у гістарычнай і лінгвістычнай літаратуры. Ён грунтуецца на трывала пусціўшым карані пункце гледжання аб зыходнай еднасці ўсяго ўсходнееўрапейскага славянства, аб распаўсюджванні ўсіх усходніх славян ад адзінага цэнтра, якім прызнаецца Падняпроўе. Лозунгам такога ўяўлення служаць летапісныя словы Алега аб Кіеве — "маці гарадоў рускіх", хоць гэтая фраза гаворыць толькі аб выбары Алегам новай сталіцы ("Маці гарадоў" — калька грэчаскага "метэр поліс", метраполія, сталіца). Згодна з гэтым уяўленнем знаходзіцца і пануючая канцэпцыя развіцця моў усходніх славян, згодна з якой у старажытнейшы перыяд (да XIII ст.) мова ўсходніх славян была адзінай, без падзелу на дыялекты, а апошнія ўзніклі ў эпоху феадальнай раздробленасці, якая паставіла паміж рознымі абласцямі палітычныя і эканамічныя бар'еры". Дастаткова зазірнуць у гістарычную літаратуру, каб упэўніцца ў слушнасці слоў рускага акадэміка В. Яніна.

Некалькі прыкладаў таго, як у імя схемы, распрацаванай яшчэ ў XVIII ст. В. Тацішчавым, робіцца насілле над фактамі. Член-карэспандэнт БАН В. Бандарчык пісаў у 1989г.: "Гістарычнай навукай даказана неабвержнае становішча, што беларусы, як самастойны этнас, вылучыліся з усходнеславянскай супольнасці, якую прынята называць старажытнарускай народнасцю. Кіеўская Русь з'явілася агульнай калыскай трох усходнеславянскіх народнасцяў — рускай, украінскай і беларускай. Фарміраванне гэтых трох генетычна роднасных этнічных супольнасцяў праходзіла пасля распаду старажытнай народнасці, расчлянення Старажытнарускай дзяржавы і адносіцца да канца XIII—XVI стст." (шматтыражка АН БССР "За передовую науку", 23 лютага 1989 г.). У 1991г. была апублікавана работа доктара гістарычных навук М. Піліпенкі "Возникновение Белоруссии. Новая концепция", у якой, акрамя назвы падзагалоўка, нічога новага вы не знойдзеце. Цытую: "...паміж крывічамі, дрыгавічамі,

*(Працяг на стар. 14)*

## Дзятлаву — 500



**У чэрвені 1998 года раённаму цэнтру Дзятлава спаўняецца 500 гадоў.**
*На здымку: так выглядае цэнтральная плошча Дзятлава.*
*Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА, Аляксандра ТАЛОЧКІ, БЕЛТА*

## Пачатак вялікай дарогі

**Багатая пухавіцкая зямля не толькі на літаратурную, але і мастацкую гісторыю. З далёкай мінуўшчыны праліваецца святло дудзіцкага скульптара К. Ельскага, які працаваў і настаўнікам мастакоў у Вільні. Плённа працуе ў беларускай скульптуры і наш сучаснік — Аляксандр Фінскі (нарадзіўся ў мястэчку Пухавічы). А ў сталіцы раёна — Мар'інай Горцы працуе цэлы атрад самадзейных мастакоў, рэгулярна наладжваюцца выставы.**

**А зусім нядаўна ў Пухавіцкім раённым краязнаўчым музеі адкрылася выстава юнай мастачкі Вольгі Калацэй, радзіма якой — вёска Светлы Бор. Зараз дзяўчынка вучыцца ў Рэспубліканскім каледжы мастацтваў, закончыла дзевяты клас. Але ўжо сённяшнія работы юнай Олі Калацэй уражваюць шматабсяжнасцю, імкненнем мастачкі спалучыць самыя розныя колеры. Асаблівымі ўдачамі падаюцца разнапланавыя нацюрморты. Шмат Оля працуе і над ілюстрацыямі да прачытаных кніг. Найбольш блізкія мастачцы творы Уладзіміра Караткевіча і Аляксандра Грына. Сваімі ўражаннямі ад творчасці Вольгі Калацэй на адкрыцці выставы падзяліліся дырэктар Пухавіцкага раённага краязнаўчага музея Аляксандр Пpановіч, дырэктар Светлаборскай сярэдняй школы Браніслаў Зубкоўскі.**

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

## Кожны ўбачыць сваё

**З пачатку чэрвеня ў зале Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа дзейнічае выстава твораў зямлячкі Якуба Коласа мастачкі Марыі Кашкан "Чары прыроды".**

**У звычайных кавалках дрэва, у каранях, у галінках, лясных пнях пільнае вока мастачкі заўважыла нешта незвычайнае, а яе ўмелыя рукі зрабілі так, што гэта стала даступна ўсім. Творы мастачкі запаўняюць усю залу, прымушаючы разглядваць іх зноў і зноў, задумвацца над паэтычнымі назвамі: "Натхненне", "Вясна", "Хто я такі"... Цягнецца ўверх гнуткая постаць "Балерыны", застылі ў спрадвечным танцы кахання буслы, вырысоўваецца з кавалка адпаліраванага дзесяцігоддзямі дрэва твар сівога, як лунь, старога з барадою...**

**Можна доўга блукаць па выставе, углядаючыся ў творы мастачкі. Іх можна ўспрымаць як своеасаблівыя ілюстрацыі да твораў Якуба Коласа, арыгіналы розных выданняў якіх знаходзяцца ў гэтай жа зале. Натхненне паэта і мастачкі чэрпалася з адной і той жа крыніцы. З'яў роднай прыроды. Таму і заходзяць на выставу наведвальнікі музея і кожны знаходзіць тут нешта цікавае для сябе.**

**Уладзімір ЖЫГАДЛА**

## Больш за 700

**Ажно столькі навуковых прац напісаў харвацкі філолаг-славіст Ватраслаў Ягіч (Ігнацій Вікенцьевіч), з дня нараджэння якога спаўняецца 160 гадоў (памёр 5 жніўня 1923 года). В. Ягіч заснаваў і выдаваў адзін з першых міжнародных часопісаў па славістыцы "Архіў славянскай філалогіі". Ён стаў ініцыятарам стварэння і рэдактарам шматтомнай "Энцыклапедыі славянскай філалогіі", а ў сваіх працах выкарыстоўваў беларускі лінгвістычны і фальклорна-этнаграфічны матэрыял (граматыкі Л. Зізанія, М. Сматрыцкага і іншых). А спецыяльныя артыкулы прысвяціў граматыцы І. Ужэвіча ("Іван Ужэвіч, граматыка XVII ст."), пэўным з'явам беларускага народнага побыту ("Сляды кувалды на Беларусі"), гісторыі адкрыцця Супрасльскага летапісу ("Матэрыялы да гісторыі славянскай філалогіі. Два лісты Міхаіла Баброўскага адносна Супрасльскага летапісу") і іншыя.**

# Зноў — поле барацьбы?

*(Працяг. Пачатак на стар. 13)*

радзімічамі, з аднаго боку, і беларусамі — з другога, няма непасрэднай пераемнасці... Дрыгавічы, крывічы, радзімічы і іншыя этнічныя аб'яднанні былі ўцягнуты ў працэс фарміравання новага этнічнага ўтварэння — агульнаўсходнеславянскай народнасці, этнічная тэрыторыя якой атрымала найменне Русь"; "...Агульнаўсходнеславянская старажытная мова становіцца пісьменнай у X—XI стст.".

Ад гісторыкаў не адстаюць і філолагі. Доктар філалагічных навук В. Мартынаў піша: "Яшчэ ў IX ст. славянскія мовы былі вельмі блізкімі; можна нават лічыць, што славяне тады гаварылі на адной мове; "...усходнеславянскае моўнае адзінства склалася яшчэ ў дагістарычныя часы ў сувязі з перасяленнем часткі славян на ўсход і іх наступнай сацыяльнай, культурнай і моўнай кансалідацыяй"; "Руская, беларуская і ўкраінская мовы склаліся ў XIV—XV стст., калі ўсходнія славяне апынуліся ў межах розных дзяржаў: Маскоўскага княства і Вялікага княства Літоўскага". ("Жывая спадчына", Мінск, 1992). Тады міжволі ўзнікае пытанне: чаму на тэрыторыі ВКЛ у XIV—XV стст. склаліся дзве народнасці — беларуская і ўкраінская, а не адна?

Гэта толькі некаторыя прыклады. Большасць аўтараў, што пішуць аб гэтым, прытрымліваюцца такіх жа поглядаў. Такая схема гісторыі славян Усходняй Еўропы і трапіла на старонкі афіцыйных падручнікаў. Але навука не сход, дзе рашэнні, навязаныя зверху, прымаюцца большасцю галасоў і становяцца ісцінай.

У рускай і савецкай гістарыяграфіі склаўся ўстойлівы погляд, што ўвесь славянскі свет складаецца з трох галін: славян заходніх, усходніх і паўднёвых. Гэтае палажэнне ставіць рускую і савецкую гістарычную навуку ў стан квазінавукі, якая развівалася сама па сабе, варылася ва ўласным катле, і не састыкоўваецца з сусветнай гістарычнай навукай. Беларускі гісторык А. Грыцкевіч, які ўдзельнічаў у XI-м міжнародным кангрэсе славістаў у Браціславе (жнівень—верасень 1993 г.), піша, што "ніхто з удзельнікаў кангрэса не дзяліў славян на розныя групы і тым больш не вылучаў асобна ўсходніх славян як нейкую аддзеленую ад іншых *супольнасць*". Абгрунтоўваючы гэтую з'яву, А. Грыцкевіч піша: "Сапраўды, выдзяленне рускіх, украінцаў і беларусаў вялося і вядзецца з часоў Расійскай імперыі, калі наогул не існавала паняцця "ўсходнія славяне" і афіцыйныя колы Расіі лічылі ўсходніх славян адзіным рускім народам (у тым ліку малароcаў і беларусаў)".

Як ужо гаварылася вышэй, АМГ — крыніца супярэчлівая, не чыста гістарычная, а гісторыка-літаратурная і таму патрабуе ад даследчыкаў строга навуковага крытычнага падыходу. Выказваліся думкі, што надзея знайсці нейкія новыя грунтоўныя крыніцы роўная нулю. Таму застаецца скрупулёзна ўчытвацца ў кожны радок, кожнае слова АМГ і іншых летапісаў, пераасэнсоўваць іх. Паспрабую абгрунтаваць прычыны і падставы падзелу славян шэрагам даследчыкаў на тры галіны, абапіраючыся на АМГ. Нестар напісаў гэты Звод каля 1113 г., г.зн. цераз 59 гадоў пасля пачатку афіцыйнага (у значнай ступені сімвалічнага) падзелу хрысціянскай царквы на Усходнюю, праваслаўную, і Заходнюю, рымска-каталіцкую. (У 1054 г. парваў з Рымам толькі Канстанцінопальскі *патрыярхат. Антыяхійскі патрыярхат* аддзяліўся ад Рыма ў 1100 г., Іерусалімскі — у 1188 г., Александрыйскі — у 1219 г.). Аднак супярэчнасці паміж цэрквамі пачаліся яшчэ з часоў падзелу Рымскай імперыі (395г.) на Заходнюю і Ўсходнюю (Візантыю).

Нестар разглядае пытанне рассялення шматлікіх славянскіх плямёнаў па тэрыторыі Еўропы. Пры ўважлівым чытанні АМГ прасочваюцца сімпатыі аўтара да пэўнай групоўкі плямёнаў. Ён, напрыклад, больш падрабязна піша аб тых плямёнах Усходняй Еўропы, якія прымалі хрышчэнне ад Канстанцінопальскага патрыярхата, і пасля падзелу цэркваў (1054 г.) засталіся ў сферы ўплыву Канстанцінопаля. Менш падрабязна Нестар піша аб славянах, якія прынялі хрышчэнне ад Рыма, і славянах Балканскага паўвострава, якія прымалі хрышчэнне з Візантыі. Царква, як вядома, ніколі не падзяляла людзей па этнічнай адзнацы, а толькі па канфесійнай прыналежнасці. Гэтакі непрамы і не вельмі выразны падзел Нестарам славян і стаў для даследчыкаў грунтам для падзелу славян ужо па этнічнай адзнацы на ўсходніх, заходніх і паўднёвых. Больш таго, рабіліся і робяцца спробы знайсці гэтыя тры галіны ў больш старажытныя часы, звязаць іх з назвамі плямёнаў, якія захаваліся ў працах старажытных аўтараў. У той жа час Нестар пісаў, што Радзім і Вячка (князі радзімічаў *і вяцічаў) прыйшлі "з ляхаў"*, г. зн., што "ўсходнія славяне" радзімічы і вяцічы прыйшлі з земляў "заходніх славян". Вышэйнапісанае дае падставы, на маю думку, адмовіцца ад тэрміна "ўсходнія славяне" і адносна рускіх, украінцаў і беларусаў карыстацца тэрмінам, у аснове якога закладзена не этна-племянная, не канфесійная, а геаграфічная адзнака — "славяне Усходняй Еўропы". Праўда, і гэтую тэзу таксама нельга прызнаць вельмі ўдалай, бо межы тэрытарыяльнага падзелу Еўропы на Заходнюю, Цэнтральную і Усходнюю вельмі ўмоўныя і рознымі аўтарамі і ў розных краінах акрэсліваюцца па-рознаму.

Яшчэ ў дарэвалюцыйны час некаторыя лінгвісты выказвалі думкі аб тым, што мова асобных груповак "усходніх славян" значна *адрознівалася адна ад другой*. Так, напрыклад, Д. Ушакоў пісаў у 1910 г., што "руская мова ўжо ў старажытную эпоху дзялілася на гаворкі". І далей: "Помнікі, напісаныя, напрыклад, у Вялікім Ноўгарадзе, адрозніваюцца па мове ад напісаных на Валыні і Галічы: можна бачыць ужо на пісьме доказы таго, што ў Ноўгарадзе размаўлялі не так, як у Галічы". Д. Ушакоў лічыў, што ў старажытных помніках галіцка-валынскай пісьменнасці XII ст. існавалі рысы сучаснай украінскай мовы. Ён быў адным з нямногіх рускіх лінгвістаў, які выказваў думку, што існуюць самастойныя беларуская і ўкраінская (маларасійская) мовы, а не гаворкі рускай мовы.

Вядомы літоўскі лінгвіст Казімерас Буга ў 20-я гг. XX ст. выказваў думкі, што крывічы, калі яны аселі ў раёне Гародні (па ягонай датыроўцы ў VI—VII стст.), перанеслі туды гідронімы з заходнеславянскіх земляў. Маюцца на ўвазе назвы ракі Віслы: Свіслач, Іслач, Вісліца (прыток Бобрыка); і не толькі з басейна Віслы, а і з яшчэ больш заходніх тэрыторый. У VII—VIII стст. геаграфічныя назвы славян-крывічоў на Гарадзеншчыне па мове (яе складзе) не адрозніваліся ад мовы заходніх (палабскіх) славян, — пісаў К. Буга.

Маскоўскі прафесар А. Кузьмін адзначаў, што пры раскопках у Кіеве "каменнага *падмурка капішча (паганскага)... даволі* выразна праглядаецца і ўзор: багі балтыйскіх славян". У. Пічэта пісаў, што не на грунце так званай старажытнарускай народнасці, а на "грунце старых мясцовых гаворак складваліся беларуская і ўкраінская мовы з іх фанетычнымі і марфалагічнымі асаблівасцямі..." Але такія пункты гледжання не ўкладваліся ў рамкі рускай і савецкай афіцыйнай гістарыяграфіі, не мелі падтрымкі з боку большасці навукоўцаў (па розных меркаваннях) і таму замоўчваліся. Такія погляды не траплялі на старонкі падручнікаў і іх ведалі толькі абмежаваныя колы навукоўцаў.

З 1951 г. гістарычная навука пачала абагачацца зусім новымі, дагэтуль невядомымі крыніцамі. Пры археалагічных раскопках Ноўгарада пачалі знаходзіць бяроставыя граматы. Пасля раскопак 1988 г. ужо знойдзена 700 грамат (з 20 тысяч, па прагнозах В. Яніна). Акрамя Ноўгарада, бяроставыя граматы знойдзены ў шэрагу іншых гарадоў, у тым ліку Віцебску, Мсціславе, Смаленску. У другіх беларускіх гарадах бяроставых грамат не знаходзілі, але знаходзілі інструменты для пісьма, так званыя "пісалы".

Самыя раннія Наўгародскія граматы датуюцца першай паловай XI ст., самыя познія адносяцца да сярэдзіны XV ст., потым знікаюць, бо замест бяросты для пісання пачалі карыстацца паперай. Сярод знойдзеных *грамат больш* за 200 датуюцца XI—XII *стст.*

Першапачатковае вывучэнне бяроставых грамат расчаравала даследчыкаў. Член-карэспандэнт АН СССР А. Залізняк, які грунтоўна вывучаў бяроставыя граматы, пісаў у 1988 г.: "склаўся погляд, што ў іх (граматах) шмат памылак, апісак" і што па фанетыцы, марфалогіі і лексіцы яны значна адрозніваюцца ад "звычайнай", стандартнай старажытнарускай мовы", вядомай па пісьмовых крыніцах, што яны непрыгодны для вывучэння гісторыі рускай мовы. Акрамя таго, пры іх прачытанні было "зроблена шмат памылак". Далейшыя археалагічныя раскопкі значна павялічылі колькасць знойдзеных грамат на бяросце і іхняе вывучэнне працягвалася. Даследчыкі звярнулі ўвагу на тое, што "памылкі" паўтараюцца, і гэтая паўтаральнасць дазваляе ўжо гаварыць аб заканамернасці. А. Залізняк піша, што, па-першае, "растаў міф аб крайняй неадукаванасці тых, хто пісаў" граматы; па-другое, што існаваў асобны "старажытнанаўгародскі дыялект — адна з форм старажытнай славянскай мовы (XI—XII стст.) ". Далей: "Так званая звычайная стандартная старажытнаруская мова прадстаўлена ў старажытны перыяд (XI—XII стст.) значна бядней, чым старажытнанаўгародскі дыялект. Помнікі старажытнарускай мовы адносяцца да эпохі пасля падзення рэдуцыраваных (XIII ст. і *пазней)*". "*Наступная важнейшая выснова..*, атрыманая пры аналізе бяроставых грамат, аказваецца вельмі нечаканай з пункту гледжання ўстойлівых традыцыйных уяўленняў адносна гісторыі рускай мовы. Сукупны аналіз дыялектных асаблівасцяў (перш за ўсё фанетычных і марфалагічных) у бяроставых граматах, узятых у іх храналагічнай паслядоўнасці ад XI да XV ст., дае незвычайна цікавы і нечаканы вынік. Чым бліжэй да нашага часу, тым колькасць наўгародскай дыялектнай спецыфікі меншае". А. Залізняк робіць выснову, што "сітуацыя проста супрацьлеглая той, што чакалася б па класічнай схеме галінавання, згодна з якой першапачаткова адзіная мова IX—X стст. да XVст. разгаліноўваецца на серыю дыялектаў. Мы павінны з бясспрэчнасцю канстатаваць працэс *канвергенцыі, а не дывергенцыі*: адбываецца канвергенцыя старажытнанаўгародскага дыялекту з другімі дыялектамі, якія пазней разам з ім сфарміравалі рускую мову". А. Залізняк падкрэслівае, што "старажытнанаўгародскі дыялект ужо ў XI—XII стст. значна адрозніваўся — пры гэтым больш істотна, чым раней меркавалася, ад дыялекту паўднёвай часткі ўсходнеславянскай зоны (умоўна кажучы, кіеўскага...)". Вывучэнне бяроставых грамат дазволіла зрабіць яшчэ адну выснову: "выявілася, што ўнутры самога старажытнанаўгародскага дыялекту пры больш уважлівым аналізе і пры супастаўленні з сучаснымі дыялектнымі дадзенымі можна вычленіць два пласты. Адзін пласт супастаўляецца з заходняй часткай старажытнай Наўгародскай зямлі, другі — з усходняй. Гэтае супрацьпастаўленне натуральна звязаць з існаваннем на дадзенай тэрыторыі двух племянных аб'яднанняў: пскоўскіх крывічоў на захадзе і ільменскіх славян на ўсходзе". А. Залізняк падкрэслівае, што "крывіцкія моўныя асаблівасці ў шэрагу выпадкаў сходныя з заходнеславянскімі". Высновы вывучэння грамат падсякаюць карані афіцыйнай гістарыяграфіі і дазваляюць вырашаць пытанні ранняй гісторыі славян Усходняй Еўропы "без сацыяльнага заказу", — падкрэслівае А. Залізняк.

Акадэмік РАН В. Янін таксама піша, што *старажытнейшы наўгародска-пскоўскі дыялект* "у XI—XII стст. адрозніваўся ад паўднёварускага не менш чым двума дзесяткамі істотных адзнак, але падобных шмат якімі элементамі з мовамі балтыйскіх славян, а таксама сербска-славенскай групы паўднёвых славян". І далей: "Высвятляецца, што пачатковая гісторыя рассялення славян ва Усходняй Еўропе была больш складанай, чым меркавалася раней. Паўночна-Заходняя Русь, якая зберагла старажытныя вечавыя парадкі на шмат стагоддзяў:, увабрала ў сябе не дняпроўскі, а галоўным чынам заходнеславянскі кантынгент насельніцтва". Толькі "ў XIII—XV стст. заўважаецца паступовая нівеліроўка гэтых дыялектных асаблівасцяў на аснове актыўнага ўзаемадзеяння з суседнімі (у першую чаргу, суздальскім) дыялектамі".

Тэзу аб вельмі значнай этнічнай блізкасці плямёнаў Усходняй Еўропы абвяргаюць дадзеныя археалогіі. Яшчэ ў XIX ст. археолагі, абапіраючыся на спецыфічныя асаблівасці матэрыяльнай культуры, пахавальнага абраду плямёнаў, названых Нестарам, акрэслілі межы рассялення гэтых плямёнаў. Але афіцыйная гістарыяграфія ігнаравала вынікі доследаў археолагаў. У савецкі час акадэмік Б. Грэкаў (і шэраг ягоных паслядоўнікаў), выконваючы "сацыяльны заказ" улады, каб даказаць этнічную еднасць славянскіх плямёнаў *Усходняй Еўропы і існаванне адзінай* дзяржавы Кіеўскай Русі, аб'яднаўшай гэтыя плямёны, звярнуўся да "Храналагічных выпісак" К. Маркса, у якіх ён параўноўваў імперыю Рурыкавічаў (па савецкай тэрміналогіі — Кіеўскую Русь) з імперыяй Карла Вялікага. Гэтая спасылка на К. Маркса абяззбройвала гісторыкаў, яны, вядома, не маглі пярэчыць класіку, абвяргаць яго. У той жа час афіцыйныя гісторыкі ігнаравалі тыя палажэнні К. Маркса, што менавіта ў часы імператара Карла Вялікага ў Заходняй Еўропе фарміраваліся народнасці.

Склалася так, што гістарыяграфічная традыцыя лічыцца ісцінай. Навуковыя довады, накіраваныя супраць традыцыйных афіцыйных канцэпцый, павінен прыводзіць толькі той, хто прапануе новую (ці грунтоўна забытую старую, неафіцыйную канцэпцыю), якая разыходзіцца з агульнапрынятымі поглядамі, і якія не заўсёды з'яўляюцца навукова абгрунтаванымі і адлюстроўваюць ідэалогію ўлады.

Цікава, як успрымаюць навейшыя даследаванні навукі па ранняй гісторыі славян Усходняй Еўропы аўтары новых падручнікаў, якія ў тэрміновым парадку пішуцца сёння па загадзе А. Лукашэнкі? Якой будзе "падручнікавая" гістарыяграфія, прызначаная фарміраваць светапогляд, гістарычную свядомасць маладых беларусаў? Ці гэта будзе ісцінная, навуковая гісторыя, ці зноў — *цемрашальская ідэалогія?*

**Юрый ДРАГУН**

ВІНШУЕМ!

# Слухаючы неба і зямлю...

## Ігару ШКЛЯРЭЎСКАМУ — 60

Паэты бываюць розныя. Адных чытаюць, але чамусьці да іх вельмі насцярожана ставіцца крытыка. Другіх крытыка хваліць, а вось чытачы чамусьці не прыслухоўваюцца да высокіх ацэнак і бяруцца за кнігі трэціх, каго крытыка наогул не прызнае. Аднак ёсць і ПАЭТЫ асаблівага кшталту. Пра такіх звычайна кажуць: талент ад Бога. І няма патрэбы асабліва прыслухоўвацца да таго, што думаюць пра іх крытычныя мэтры, бо самі яны — цэлы СВЕТ. Аб'ёмны, маштабны і ніколі цалкам да канца не зразумелы. Аднак гэта не значыць, што яны жывуць у ім ізалявана ад людзей і ад чалавецтва. Наадварот, яны нязменна і з асобным чалавекам, і з чалавецтвам.

Менавіта да такіх творцаў належыць сын зямлі беларускай — рускі паэт Ігар Шклярэўскі. Ёсць у Ігара Іванавіча прызнанне, якое, думаецца, і вытлумачвае прычыну падобнай зніталванасці з усімі, хто жыве поруч і хто знаходзіцца далёка: "Я наогул пішу ад першай асобы. Тады кожны чытае тваё пачуцці, як сваё". Калі паглыбіць гэтую думку, развіць яе крыху, дык да месца будзе невялікае ўдакладненне: І. Шклярэўскі так жыве паэзіяй і ў паэзіі, што кожны, хто па-сапраўднаму любіць яе, таксама пачынае жыць у гэтым загадкавым, дзіўным і ніколі да канца не вытлумачаным свеце. Бо сапраўдную паэзію не перакажаш. Яе водар, каб лепей адчуць, трэба ўдыхаць у сябе, як удыхаеш чыстае, азонавае паветра пасля летняга лівня. Яе вабнасць можна зразумець, калі ў момант далучэння ўявіць сабе, што ўсё гэта — жывое, блізкае, зямное і адначасова касмічнае.

Касмізм паэзіі І. Шклярэўскага не ўзнікае з таго паэтычнага ладу, які вызначае глыбіню думкі, яе важкі сэнс. Як у гэтым безыменным вершы, у якім ажываюць памятныя згадкі маленства, што не адпускаюць цябе і наўрад ці калі-небудзь удасца выслабаніцца ад іх:

*Лежим в бурьяне на краю обрыва*
*и отрешенно смотрим в глубину.*
*Там светится, блестит, мелькает рыба.*
*И ползают домушницы по дну.*
*— Забавно, —*
*шепчет мой спесивый друг.*
*И мысль мелькает странная... А вдруг,*
*над вечностью склоняясь, вот сейчас*
*с улыбкой кто-то наблюдает нас.*

Прыцягненне неба, зорак не адпускае ад сябе, але яно не перашкаджае адчуваць і жыццё зямное — ва ўсёй яго складанасці і няпростасці, ва ўсіх тых "дробязях", з-за якіх і вечнасць успрымаеш інакш, бо яна па сутнасці з іх і саткана:

*Мне глаза искололи далекие звезды.*
*Если в небо всмотреться*
*до болю в глазах,*
*это слезы мои?*
*Или небо в слезах?*
*И провода, и березы...*

*Если долго смотреть в дорогие глаза,*
*в них однажды твоя*
*засверкает слеза.*
*Я не знаю тебя. Ты уходишь во тьму.*
*Мои слезы текут по лицу твоему.*
*("***Мне глаза искололи далекие звезды")*

І яшчэ адзін верш з гэтага шэрагу. Калі паставіць іх побач, атрымаецца свайго роду трыпціх. У маім разуменні — разуменні аднаго з прыхільнікаў таленту І. Шклярэўскага. Аднаго з тысяч тых, хто захапляецца яго паэзіяй і любіць яе:

*Женщина в поле смеется, —*
*слышится плач в небесах.*
*Чибис от плача зайдется, —*
*смех отдается в полях...*
*Долго стою под сосной.*
*Слушаю радости-беды.*
*Все искажает веды*
*воздух, неровно пригретый.*
*Звукам обманчивым внемлю.*
*Слушаю небо и землю,*
*Долго стою под сосной...*
*("***Женщина в поле смеется")*

Аднак, "слухаючы неба", І. Шклякрэўскі не проста і "зямлю слухае". Ён прыслухоўваецца да той зямлі, што беларускай называецца — бяльніцкай, на якой упершыню зірнуў на свет. магілёўскай, дзе прайшло юнацтва. І, гэты голас Бацькаўшчыны выклікаў у Ігара Іванавіча жаданне за грошы, што былі атрыманы ім пасля прысуджэння Дзяржаўнай прэміі СССР, пасадзіць свой лес. І гэты лес ёсць цяпер на Магілёўшчыне. Шклярэўскага лес. І няхай пакуль ён так не называецца, дык абавязкова будзе называцца. З цягам часу. Бо беларусы памятаюць дабро і на дабро адказваюць дабром. А яшчэ болей шануюць тых сваіх сыноў, якія пра Беларусь не забываюцца.

А памяць аб Беларусі, згадкі асобных момантаў агульнай для нашых народаў — беларускага, рускага, украінскага — гісторыі несумненна падштурхнулі І. Шклярэўскага ўзяцца за пераклад "Слова аб палку Ігаравым" — дарэчы, адзін з найбольш удалых не толькі рускамоўных пераўвасабленняў гэтага славутага літаратурнага помніка. І гэтая памяць абавязала яго данесці да рускага чытача "Песня пра зубра" Міколы Гусоўскага. Атрымаўся "вольны пераклад", у якім як бы спаборнічаюць у майстэрстве, застаючыся на роўных, два слынныя майстры — М. Гусоўскі і І. Шклярэўскі, а перамагае... Перамагае яе вялікасць ПАЭЗІЯ. Як перамагае яна і ў паэме І. Шклярэўскага "Слова аб Куліковым полі", у аснову якой пакладзена ведамае "Паданне аб Мамаевым пабоішчы". І невыпадковая паралель атрымліваецца: "Слова аб палку Ігаравым" — "Слова аб Куліковым полі"...

...У аўтабіяграфіі "Аб сабе", змешчанай у аднатомніку "Выбранага", які выйшаў у выдавецтве "Художественная литература"



яшчэ ў 1984 годзе, паэт з прызнасцю ўспамінае, як ў юнацтве яго, куды б ні закінуў лёс, абавязкова цягнула ў родныя мясціны: "З надзеямі: з пустымі кішэнямі і крыўдамі вяртаўся дахаты, адлежваўся, набіраўся сілы і зноў раз'язджаў па зямлі. Кругамі. І зноў да запаветнай станцыі, дзе дыспетчар аб'яўляў: "Поезд отходить..."

На той станцыі дыспетчар і сёння аб'яўляе гэтаксама. І, як у гады маладосці І. Шклярэўскага, прыходзяць і адыходзяць цягнікі. Ды няма ў іх Ігара Іванавіча, бо за гэтыя гады так шмат змянілася. І каб выбрацца з Масквы, трэба ўжо, як кажуць, у нябліскі свет паехаць. Але сапраўднай паэзіі білет непатрэбны. Таму па-ранейшаму любяць творчасць І. Шклярэўскага на Беларусі. І паранейшаму разам з ім удзячныя чытачы, якія ў любым узросце застаюцца натурамі надзвычай паэтычнымі, "слухаюць неба і зямлю".

Слухаюць разам з адным самых выдомых сучасных рускіх паэтаў.

Разам з рускім паэтам з Беларусі слухаюць...

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

ЧЫТАННІ

# Па запаветах святых Мяфодзія і Кірылы

Сёлета чарговыя IV Кірыла-Мяфодзіеўскія чытанні ў Мінску сталі спробай аб'яднання агульных намаганняў дзвюх навучальных устаноў, Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта і Беларускага універсітэта культуры, у святкаванні і правядзенні Дзён славянскага пісьменства і культуры на міжнародным узроўні.

Аргкамітэт Беларускага універсітэта культуры па правядзенні Чытанняў звярнуўся з прапановай на тэалагічны факультэт ЕГУ аб сумеснай арганізацыі Кірыла-Мяфодзіеўскіх чытанняў, якія сталі ўжо традыцыйнымі для абедзвюх устаноў (II-я для БУКа; IV-я для ЕГУ). Даволі няпростым было вырашэнне некаторых пытанняў супрацоўніцтва. І толькі дзякуючы талерантнасці і ўзаемаразуменню былі зроблены першыя крокі насустрач. Вялікую падтрымку ў арганізацыі IV Кірыла-Мяфодзіеўскіх чытанняў аказаў непасрэдна Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усея Беларусі, дэкан факультэта тэалогіі ЕГУ.

Пленарнае пасяджэнне, якому папярэднічаў святочны малебен, пачалося на факультэце тэалогіі ЕГУ 24 і прадоўжылася 25 мая ў чытальнай зале бібліятэкі Беларускага універсітэта культуры. На святочнае адкрыццё Чытанняў былі запрошаны прадстаўнікі пасольстваў Балгарыі, Грэцыі, Югаславіі і Расіі ў Рэспубліцы Беларусь, а таксама прадстаўнікі Міністэрства адукацыі і Міністэрства культуры Беларусі. Прысутнасць Мітрапаліта Філарэта, яго выступленні ў першы і другі дзень у ЕГУ і БУКу сталі неабходным звязуючым, яднаючым звяном у агульнай справе.

Шчыра віталі ўдзельнікаў IV Кірыла-Мяфодзіеўскіх чытанняў і ў Беларускім універсітэце культуры: рэктар Я. Грыгаровіч, прарэктар па навуковай рабоце А. Паздняког, фальклорны ансамбль "Грамніцы" пад кіраўніцтвам У. Зяневіча, ды і наогул усе выкладчыкі і студэнты універсітэта. У БУКу пабывалі навукоўцы не толькі з гарадоў Беларусі, але і з Масквы, Санкт-Пецярбурга, Рыма.

На працягу Чытанняў працавала сем тэматычных секцый, у якіх удзельнічалі болей за 100 выступоўцаў. Шэраг пытанняў выклікала цікавыя дыскусіі і абмен поглядамі. Найбольш напоўненай і насычанай па працы (25—26 мая) была секцыя "Кірыла-Мяфодзіеўская традыцыя ў духоўнай і кніжнай культуры славянскіх народаў". Упершыню былі арганізаваны і працавалі ў БУКу такія секцыі як "Духоўная музыка ў славянскай культуры", "Архітэктура і выяўленчае мастацтва ў культурнай спадчыне славян", у ЕГУ — "Багаслоўская і рэлігіязнаўчая адукацыя ў сучасным грамадстве", "Праблемы багаслоўскіх і царкоўна-гістарычных даследаванняў".

У традыцыйных Студэнцкіх Кірыла-Мяфодзіеўскіх чытаннях, дарэчы, і сталі пачынальнікамі Міжнародных Кірыла-Мяфодзіеўскіх чытанняў, удзельнічалі на гэты раз не толькі студэнты тэалагічнага факультэта ЕГУ, але і студэнты факультэта культуралогіі і факультэта бібліятэчна-інфармацыйных сістэм БУКа.

Заключным у Чытаннях было правядзенне "круглага стала" на тэму "Праваслаўе і культура ў сучасным свеце", што прайшоў на тэалагічным факультэце ЕГУ. Актыўным удзелам вызначыліся навукоўцы з Расійскай акадэміі навук — прафесар А. Зубаў і прафесар У. Катасонаў; з Санкт-Пецярбургскай Духоўнай акадэміі — выкладчык В. Хаўронічаў; з Італіі — прафесар Андрыана Раккуччы, а таксама выкладчыкі і студэнты факультэта тэалогіі ЕГУ і Беларускага універсітэта культуры.

На працягу Чытанняў у ЕГУ і БУКу працавалі выставы кніг сучасных выданняў багаслоўскай і рэлігійна-філасофскай тэматыкі, якія былі прадстаўлены Біблейскім Багаслоўскім інстытутам св. апостала Андрэя з Масквы. Госці і ўдзельнікі Чытанняў змаглі не толькі пазнаёміцца з літаратурай на выставе, але і атрымалі некаторыя выданні ў падарунак. Частка выданняў была ахвяравана ў фонд бібліятэкі Беларускага універсітэта культуры.

Акрамя таго, асноўнае месца на выставе было адведзена старадрукам: кірылічным рукапісам і выданням XVI—XVIII стагоддзяў з кнігазбораў аддзела рэдкай кнігі Прэзідэнцкай бібліятэкі, бібліятэкі Мінскага Епархіяльнага Упраўлення, аддзела рэдкай кнігі бібліятэкі Беларускага універсітэта культуры. Так, напрыклад, калекцыю кірылічных кніг Прэзідэнцкай бібліятэкі прадстаўлялі творы Іаана Максімовіча, Лявонція Магніцкага, Феафана Пракаповіча, Сімяона Полацкага, якія былі надрукаваны ў Кіеве, Львове, Маскве, Чарнігаве, Галле. Асаблівасцю калекцыі бібліятэкі з бібліятэкі Мінскага Епархіяльнага Упраўлення сталі рукапісы "Месяцаслоў" і "Евангелле", а таксама віленскае выданне Св.-Троіцкага манастыра "Альфа і амега" (1786) і магілёўскі "Часоўнік" (1713).

Адметны нацыянальны каларыт у афармленне памяшканняў, у якіх праходзілі Чытанні, унесла выстава прац кафедры народных рамёстваў БУКа: кераміка Т. Васюк, габелены А. Непачаловіч, якія спецыяльна рыхтавалі свае вырабы да свята славянскага пісьменства і культуры. Памятным падарункам удзельнікам Чытанняў сталі медалі з выявай Жыровіцкай Божай Маці, якія былі зроблены выкладчыкам кафедры Тамарай Васюк.

Арганізатары Чытанняў, працуючы зараз над падрыхтоўкай да друку матэрыялаў выступленняў, спадзяюцца на далейшае супрацоўніцтва і сумесную працу па правядзенні наступных Кірыла-Мяфодзіеўскіх чытанняў, прысвечаных Дням славянскага пісьменства і культуры.

**Лора ДОЎНАР**



**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Уладзіміру ФЕДАСЕЕНКУ з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці маці.**

СПАДЧЫНА

*У хуткім часе выйдзе зборнік матэрыялаў III Міжнародных Купалаўскіх чытанняў "Янка Купала — публіцыст", дзе ўпершыню глыбока і шматбакова асветлена публіцыстычная спадчына і дзяржаватворчая дзейнасць геніяльнага сына нацыі. Многія старонкі вогнепіснай публіцыстыкі, закінутыя ў ідэалагічныя спраты, атрымалі сучаснае асэнсаванне і паслужаць новым а мудрым гісторыкам, дойлідам Беларускага Дому, аб якім марыў наш вялікі будзіцель.*

*У дадатку да зборніка сабраныя тэксты публіцыстычных твораў Янкі Купалы 1919—1920 гадоў. Раздзел "Dubbia" ўводзіць у грамадска-палітычны ўжытак тэксты, якія прыпісваюцца пяру Івана Дамінікавіча.*

*Прапануем некалькі Купалавых старонак са згаданага зборніка.*

**Сяргей ПАНІЗНІК,**
**вучоны сакратар Літаратурнага музея Янкі Купалы**

# "...Калі ўжо нарадзілася беларуская сіла..."

## Дэмакратычная камедыя

Ад пэўнага часу завёўся на Беларусі вельмі цікавы дэмакратычны звычай. Калі трэба, напрыклад, адчыніць школу, дык склікаюць бацькоў і ставяць ім пытанне: якую яны хочуць школу — расійскую, польскую ці беларускую? Як водзіцца пры добрым дэмакратычным парадку, каторыя стараюцца давесці бацькам, што самая лепшая школа ёсць тая, каторую ён, агітатар, расхвальвае. Само сабой разумеецца, што кожны агітатар набірае сабе пэўны лік прыхільнікаў. І вось, прыхільнікі расійскага агітатара просяць сабе расійскай школы, прыхільнікі польскага — польскай, а прыхільнікі беларускага настаўніка — беларускай. Справа канчаецца тым, што школа не адчыняецца, бо трэ' было адчыніць адну, а тут дамагаюцца трох.

Усё гэта хораша, дэмакратычна і добра, — асабліва, калі расказваць людзям. Гляньце ж бо, добрыя людзі, як на Беларусі ўсё добра, хораша і дэмакратычна! Жаднага прымусу ці, барані Божа, гвалту: сам народ робіць усё так, як яму жадаецца, як ён падабае. І ніхто яму не перашкаджае. Такія пайшлі добрыя людзі!

Мы, таксама людзі не кепскія, — дэмакраты ды яшчэ й сацыялісты. Рознімся мы ад іншых добрых людзей толькі тым, што мы беларусы. І вось, з нашага, беларускага погляду ўсе гэтыя плебісцыты і сходы бацькоў ёсць нішто іншае, як дэмакратычная камедыя, каторую людзі прыкрываюць сваё нячыстае сумленне. Які тут дэмакратызм і якая тут можа быць справядлівасць? Хіба можа цёмны беларускі абыватель пажадаць беларускае школы, калі ён не ведае, ці прынясе яна яму карысць! Хіба можа ён адважыцца на беларускую школу, калі беларушчына цэлыя соткамі год ганьбілася і выганялася адусюль, адкуль толькі можна было? Хіба можна вымагаць, каб турэцкі янычар падаў голас за хрысціяніна, калі яго навучылі ненавідзець хрысціянства? Тут рада адна: трэба адцяць доўгія рукі турка, каб не псаваў ён хрысціянскіх дзяцей, — трэба ухіліць і паляка і расійца, і паадчыняць усе чыста школы, якія існавалі на Беларусі, загадаўшы ім прышчапляць вучням любасць да роднага краю, развіваць у іх пашану да таго народа, сярод каторага яны жывуць, і гатаваць з іх добрых, сумленных і працавітых работнікаў на ніве беларускай культуры. Трэба ж, конец-концам, уцяміць, што тут не Расія і не Польшча, а Беларусь, каторая не хоча ніякіх плебісцытаў, накіданых ёй сёння аднымі, а заўтра другімі, і ніхто не мае ніякага "дэмакратычнага" права залазіць да яе ў хату і пытацца: ці гэта твая хата, ці мая? Само сабою разумеецца, што калі мець стрэльбу ў руцэ і прыстаць з такімі пытаннямі, то чалавек паняволі скажа, што я не я і хата не мая.

Ну, хіба ж гэта дэмакратызм, скажэце на ласку Боскую? Гэта дэмакратычная камедыя, каторая толькі выклікае не смех, а горкія слёзы, бо чыніцца над жывым, змучаным, абяздоленым народам. Нашто мучыць яго, нашто выстаўляць на здзек яго нацыянальную несвядомасць?

І ці не пара ўжо пераканацца людзям, што на свой капыл беларускага народа не пераробіш. Палякі мелі магчымасці перарабляць беларусаў на палякаў цэлыя трыста год з лішкаю і нічога неўскуралі, калі не лічыць пары сотак старога выміраючага шляхецтва. Тое самае рабілі на працягу 125-ці год з лішкаю расійцы і гэтаксама нічога не зрабілі, — беларускі народ застаўся беларускім народам, нягледзячы на ўсё падашуканства, якое пускаў маскоўскі ўрад, каб абмаскаліць наш народ. Дасяг ён не шмат: пару сотак "інтэлігентаў", з каторых смяюцца і Бог і добрыя людзі.

А той "дэмакратызм", які пускаецца ў дзела цяпер, нічога іншага выклікаць не можа, апрача нацыянальнай рэвалюцыі. І чаму гэта ў людзей такая кароткая памяць? Чаму яны так хутка забылі той жах, які перажывалі ў час сацыяльнай рэвалюцыі? Чаму яны з такой упартасцю дражняць народ і даводзяць яго да вар'яцтва, калі ён, страціўшы прытомнасць, хватае кій і пачынае біць усіх і кожнага, не разбіраючы?

Няхай не палічаць нашыя словы за покліч к бунтарству, — Божа ухавай нас ад гэтага кроку! Мы толькі зазначаем, што калі ўжо нарадзілася беларуская сіла, то ні паланізацыя, ні русіфікацыя не павінны мець месца на Беларусі, хоць бы нават апранутыя ў дэмакратычнакамедыйныя шаты.

*Газ. "Беларусь", N 10, 31 кастрычніка 1919 г.*

## Менск, 25 кастрычніка

Змучаны беларускі народ жадае толькі аднаго: спакою і парадку. Нават тая зямля, на каторую ён квапіўся, перастала яго вабіць у той меры, як гэта было ў пачатку. Ён просіць аднаго, — дайце яму спакой, дайце магчымасць працаваць, спакойна спажываць працу рук сваіх і быць пэўным у тым, што ўжо не прыдзе новая невядомая яму сіла ды не разрушыць таго, што ім з такою труднасцю зноў адбудована і наладжана. Але гэтай пэўнасці няма, няма і таго, каб хто рупіўся запэўніць яму жаданы спакой і парадак. Падзеі апошніх год так прызвычаілі яго да розных перамен і неспадзяванак, што ён перастаў верыць у тое, што робіцца навокала; прывык глядзець на гэта, як на нешта дачаснае, выпадковае, што трэба перацярпець, перажыць, але што непрыменна пройдзе, перажывецца ды зноў трэ' будзе гатавацца да нечага іншага, не горшага і не лепшага, але таксама непрыемнага і неспадзяванага.

Як гэта звычайна бывае ў людзей, перажываючых боль і непрыемнасці, — усё лепшае яны бачаць ззаду, у тым, што было, але прамінула. Так і наш змучаны вайною і рэвалюцыяй народ усё лепшае, спакайнейшае і трывалае бачыць у тым, што было раней, перад вайной і рэвалюцыяй. А раней была Расія...

Мала было грошай, але многа дабра, быў спакой і парадак, а што важней — дык гэта ўпэўненасць у заўтрашнім дні. Яму няма дзела да таго, што гэта быў спакой дамавіны, а парадак астрогу. Досыць таго, што яму здаецца прамінулае лепшым і святлейшым. Гэта — рэакцыя. Гэта той грунт, на каторым вырастаюць усялякія ўзурпатары і гвалтаўнікі. Гэта так. Але, разумеецца, запалохаць яго тым, што, скажам, Дзенікін вешае украінцаў, паліць іх кніжкі, зачыняе школы і расстрэльвае ўсіх, хто спачувае волі, грамадскаму дабрабыту і чалавечай справядлівасці, — запалохаць гэтым народ не можна. Маса — некрытычна і далёка вокам не сягае. Народ жыве цяперашнім, ён ідзе за тым, што дае здавальненне сягоння, цяпер, зараз жа. Ён адчувае боль, нездавальненне і шукае выхаду. І шукае яго там, дзе, на яго думку, ён быў раней. Ён не бачыць, што тыя дзверы жахаюць агнём і што трапіць ён з агню ды ў полымя.

Ён не бачыць, але бачым гэта мы. Мы ведаем гэта, — а што ж мы зрабілі для таго, каб утрымаць яго ад гэтага кроку ды каб ўратаваць яго і самых сябе ад насуваючай небяспекі? Што зрабіла польская ўлада, каб забяспечыць народу лепшае жыццё? Што зрабіла яна дзеля таго, каб адвярнуць яго думкі ад дзікай навапаўстаючай Расіі? Прашлі тыя часы, калі народам можна было справацца голаю сілай. Цяпер народ вымагае відочнай дапамогі, сягодняшняга паляпшэння, а калі гэтага няма, дык ён, разбуджаны і стрывожаны, не памірыцца з сваім станам і не перастане шукаць свайго здавальнення.

І да гэтага часу не зроблена нічога, каб запэўніць народ, што ён пабудзе сваё новае жыццё так, як сам таго захоча і як тое абяцана яму праз вядомую адозву. Тыя польскія ўраднікі, што вядуць працу на месцах, проста заганяюць беларускі народ у абоймы маскоўскіх захватчыкаў. Гэтага не бачыць хіба той, хто не хоча бачыць і нічога не разумее.

Але вырасла ўжо новая сіла, каторая павядзе за сабою беларускі народ. Ён зразумее нарэшце, што ніякая надворная апека не здаволіць яго патрэб, што ніхто яму не дасць спакою і парадку, апроч яго самога. Толькі ён сам уладар сваё зямлі, гаспадар свайго краю, вызваліць сябе з свае нядолі. Толькі незалежная Беларусь збавіць нас раз назаўсёды ад чужой апекі і перакідання з аднаго боку на другі. Толькі Беларуская дзяржава запэўніць нам спакой, парадак і лепшую долю.

*Газ. "Беларусь", N 5, 25 кастрычніка 1919 г.*

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ
**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 2848-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2848-525, 2331-985
**АДДЗЕЛЫ:**
публіцыстыкі — 2848-204
пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985
літаратурнага жыцця — 2848-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985
паэзіі і прозы — 2848-204
музыкі — 2848-15
тэатра, кіно і тэлебачання — 2848-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2848-462
навін — 2848-462
мастацкага афармлення — 2848-204
фота-карэспандэнт — 2848-462
бухгалтэрыя — 2366-071



**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 4282
Нумар падпісаны ў друк 1.7.1998 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 999
Заказ 3962/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

Марцін КОЎЗКІ

# Доля праўды

Ёсць міжнародны блатны жаргон. "Лімон" на "фене" азначае мільён. Няцяжка ўявіць, як нарадзілася слоўца — цяга да золата, мара пра сонца. Да мільярда, праўда, не дайшоў жаргон, не хапіла блатным адукацыі. Іх бы да нас, у нашу інфляцыю, знайшліся б адпаведнікі і на більён і на трыльён.

●

— Хіба так кракаюць, — кпілі качкі з гусі, — не краканне ў цябе, а крэкт. — Гэта я з вас смяюся, — пачулі ў адказ ад гусі, — гэта ў вас не гогат, а наш дыялект.

●

Баран пазайздросціў: "Бык з пярсцёнкам у носе". — "Прыкусі язык, — зароў бык, льга табе ці нельга, угледзеў пярсцёнак, угледзь і канец ланцуга".

●

Толькі Іван на парог, жонка яму: "Дыхні!" — Не надыхаецца на цябе маладая жонка. — Што ты, баіцца атруты, а я яе ў рот не бяру, гэту іншаземную самагонку. *Пшанічная ў нас цяпер*, без падману, фірменная "Славянская" в стаканах".

●

Адкінуць адразу ўсё мінулае проста немагчыма. Вуліца Стаханаўская... Савецкі завулак... Неяк абыякава праходзіш міма. Але мінулае робіцца прышласцю, і наўрад ці гэта справа аднаго ўсявышняга. Тут неяким чынам усе мы штосьці чынім.

●

І на сонцы ёсць плямы... Факт, а не рэклама? Факт рэкламы, ды які вялізны... бліжэйшага пункта мыцця бялізны. Усё ўскосна ці прама — рэклама. Чым быў Марксаў заклік да пралетарыяў?.. Без каментарыяў.

●

На праспекце фарбуюць фасады, як заўсёды, парадныя. А што там за тымі фасадамі — як заўсёды, штосьць непрыглядное. Не можа, сцвярджаюць знаўцы, усё і паўсюль быць ладным, але і ў тых, непрыглядных, ёсць фасады парадныя. Факт, на вялікі жаль, нам непадуладны.

●

Калі б вярблюд мог пралезці скрозь ігольнае вушка, ён выйшаў бы адтуль ніткай. З павагай гляджу цяпер на кожную шпульку: колькі б яшчэ вярблюдаў магло атрымацца! Дык жа ўпіраюцца гарбатыя, не ідуць.

●

Каб дазволілі індывідуальнае пасмяротнае будаўніцтва на могілках, якія харомы ўзвялі б тут новыя беларусы. Што значыць дазволілі, ужо стаяць!

●

Нязграбная назва "папамабіль" — папу рымскага бароняць ад бандыцкіх стрэлаў. Колькі той папа наязджае міль, а прымушаюць надзяваць камізэльку. Неяк надзейней у бронежылеце, і ўсё-ткі Кенедзі дасталі з гары. Нявесела жыць на гэтым свеце, спадары зямныя ўладары. Як каго і ў каго калі... Дрыжаць і з аховаю каралі.

●

Няма ў нас конных статуй, хоць быў свой кавалерыст Даватар. А ці не пара такую статую паставіць беларускаму аратаю?

●

Гледзячы на рынку на першую зеляніну, гаварыў дзед Мацей: — І я гэта буду есці, толькі трошкі пазней. Лічыце, што так адпаведна ад багатага адрозніваецца бедны.

●

Напал ягоных твораў? Усё выверана і адмерана. Аднак — як у тых прагнозах надвор'я — "ад слабага ад ўмеранага".

●

Габрэян — беларускі яўрэй армянскага паходжання. Была ў нас дружба народаў, калі меркавалі па прозвішчах.